


Мікалай Пінігін→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Крыху генеалогіі→9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 06 (3013) Год LIX | Беласток, 9 лютага 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Падляшша ў аб'ектыве

У IX выпуску конкурсу «Падляшша ў аб'ектыве» імя Віктара Волкава, які ладзіць Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, прыняло ўдзел 70 асоб з Падляшша і іншых рэгіёнаў краіны. З ліку дасланых амаль 240 фатаграфій былі выбраны лепшыя і яны прэзентуюцца на конкурснай выставе ў Гайнаўскім белмузеі. Адкрыццё выставы адбылося 26 студзеня і было яно прымеркаванае да падвядзення вынікаў фатаграфічнага конкурсу і ўручэння ўзнагарод. На здымках паказваюцца прырода і архітэктура Белавежскай пушчы і іншых рэгіёнаў Падляшша, людзі, якія ўраслі ў мясцовы краявід, рэлігійныя тэмы, цікавыя дэталі, якія спалучаюць цяперашняе з мінулым.

Вядомы фатограф Яраслаў Хыра, які ад імя конкурснай камісіі (працавалі ў ёй яшчэ Бажэна Валенцік і Тамаш Класоўскі) падвёў вынікі конкурсу, звярнуў увагу на прыблізна аднолькавы ўзровень лепшых фатаграфій.

— Даволі лёгка было нам выбраць самыя лепшыя фатаграфіі дзесяці ўдзельнікаў конкурсу, але каб назначыць першыя тры месцы, прыйшлося доўга аналізаваць здымкі і нават спрачацца. Практычна кожны з дзесяці лепшых фатографаў мог заняць першае, другое, ці трэцяе месца. Аднак, калі б мы назначылі тры першыя раўнапраўныя месцы, тады панізілася б значэнне першай узнагароды. Таму мы прызналі толькі адно першае месца, — заявіў Яраслаў Хыра.

Яшчэ да адкрыцця выставы дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і Яраслаў Хыра ўручалі ўзнагароды пераможцам конкурсу і дыпломы яго ўдзельнікам.

— Высокі агульны ўзровень конкурсу бачым ад трох гадоў. Цешыць нас, што асобы, якія добра фатаграфуюць, сталі пастаянна прымаць удзел у гайнаўскім конкурсе, — сказаў Яраслаў Хыра. — Здымкі пераможцы конкурсу Адама Фалькоўскага з Бельска-Падляшскага, не з'яўляюцца выпадковымі фатаграфіямі. Відаць, што былі яны зроблены ў адпаведнасці з раней запланаваным сцэнарыем, з цікавай задумай. На некаторых фатаграфічных конкурсах, нават самых прэстыжных, робіцца стаўка на непаўторныя здымкі хвіліны, якія ў іншых абставінах нельга было б выканаць і гэта адна з канцэпцый працы журы. Мы гэтага не ставілі на першы план, а здымкі ацэньвалі ў цэлым.

Другое месца занялі Павел Тадэйка з Беластока, аўтар фатаграфій, зробленых на Бебжы і ў яе наваколлі і Тамаш Мотлах з Бендзіна, якога ўзнагародзілі за здымак веласіпедыста з Семяноўкі.

— Там надалей пераганяюць кароў праз Бебжу, каб пасвіць іх на другім баку ракі. Гэта вельмі цікавы сцэнарый для фатаграфавання. Здымкі трэба было рабіць у адпаведную пору дня і з адпаведным асвятленнем, — сказаў Павел Тадэйка, які ў мінулых гадах атрымліваў вылучэнні. Сёлетняе другое месца гэта яго самы вялікі поспех на гайнаўскім конкурсе. Ён быў адзіным з ліку пераможцаў, што занялі тры першыя месцы, які прыбыў на падвядзенне вынікаў конкурсу.

Трэцяе месца заняў Яраслаў Даманскі з Белай-Падляшскай, які прадставіў здымкі з рэлігійнымі тэмамі, між іншым, са Святой Гары Грабаркі. Вылучэнні атрымалі Пётр Свідэрскі з Бельска-Падляшскага, Барташ Нічыпарук з Гайнаўкі, Марцін Сокул з Беластока і Яраслаў Еленскі з Быдгашчы. Вылучаны былі здымкі двух маладых творцаў: Рафала Асташэўскага з Койлаў (здымак жанчыны, якая квасіць капусту) і Пятра Санюковіча з Беластока.

— Вылучэнцы таксама даслалі цікавыя фатаграфіі. Напрыклад Пётр Свідэрскі з Бельска-Падляшскага цікава паказаў старое Падляшша, з даўнім кліматам і прыстарэлымі людзьмі. Каб выканаць здымак стомленага чалавека са старым веласіпедам, трэба раней знайсці такую асобу, такі ровар і адпаведна гэта сфатаграфаваць. Каб дабіцца перамогі, не трэба фатаграфаваць толькі асаблівасцей мінулага. Можна цікава паказаць сучаснае, мадэрнае Падляшша, — гаварыў Яраслаў Хыра.

Вылучаныя фатаграфіі выконваліся таксама на Гайнаўшчыне. Але фатографы з Гайнаўшчыны ў пераважнай большасці не атрымалі ўзнагарод і вылучэнняў.

— Мой сын Міхал прафесійна займаецца фатаграфаваннем, свае здымкі на выставах паказвала дачка Ева. Я таксама фатаграфую здаўна, але раблю гэта па-аматарску. Добра было б, каб здымкі прафесіяналаў і аматараў не ацэньваліся ў адной катэгорыі, бо аматару практычна немагчыма перамагчы ў спаборніцтве з прафесіяналам. Я прадставіла на конкурс фатаграфію з мінулагодняга беларускага фэсту ў Падрэчанах і цікавы здымак старэйшай жанчыны, — заявіла былая настаўніца Гайнаўскага белліцэя Ядвіга Дамброўская, якая папрасіла Яраслава Хыру патлумачыць за што былі вылучаны пераможныя фатаграфіі.



Здымкі Адама Фалькоўскага з Бельска-Падляшскага (першае месца) не з'яўляюцца выпадковымі фатаграфіямі, бо відаць, што былі зроблены ў адпаведнасці з раней запланаваным сцэнарыем, — сказаў Яраслаў Хыра

— Я жыву непадалёк ад Супрасльскага мужчынскага манастыра і з акна сваёй хаты зрабіў фатаграфію з манастырскай забудовай і коньмі на першым плане. Іншая фатаграфія з коньмі выкананая ў зімовым антуражы нагадвае аб Раству Хрыстовым. Я свядомы недахопаў на маіх здымках і пастараюся рабіць лепшыя, — сказаў Славамір Кірылюк, ураджэнец Гайнаўкі, які часта прыязджае сюды да сям'і.

— У мінулым я рабіла здымкі фотаапаратам «Зеніт», а цяпер перайшла на лічбавы фотаапарат. Зараз тэхнічныя магчымасці намнога большыя, але самая важная задума здымка і спосаб яе выканання. У фотаконкурсе я прыняла ўдзел другі раз і не дабілася поспеху, таму намерваюся даслаць фатаграфіі на чарговы конкурс, — сказала жывапісецаматар Тамара Кердалевіч з Чаромхі.

Адзін з маіх суразмоўцаў запрапанаваў завузіць тэму конкурсу.



Другое месца заняў Павел Тадэйка з Беластока, аўтар трох фатаграфій зробленых на рэчцы Бебжы і ў яе наваколлі і Тамаш Мотлах з Бендзіна (здымак веласіпедыста з Семяноўкі)

— Лаўрэат першага месца, Адам Фалькоўскі з Бельска, прадставіў вельмі моцныя фатаграфіі і на ягоным трыпціху відаць канкрэтную задуму. Частка ўдзельнікаў конкурсу даслала фатаграфіі з рознымі тэмамі, без супольнай задумы, думаючы, што можа адзін са здымкаў спадабаецца конкурснай камісіі. Так агульная тэма конкурсу (фатаграфаваць усё Падляшша) спрычыняецца да разгубленасці фатографаў. Я, напрыклад, не мог рашыцца на якую тэму здымкаў паставіць і ўвогуле не прыступіў да конкурсу. Можна было б у будучыні запрапанаваць больш канкрэтныя тэмы для фатаграфавання, — даў чарговую прапанову вядомы фатограф з Гайнаўкі Уладзіслаў Завадскі.

Член журы, Яраслаў Хыра, лічыць шырокую тэму конкурсу якраз яго вялікім козырам.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Народ супраць мафіі

Падзеі, якія адбываюцца зараз ва Украіне, закранаюць не толькі гэтую самую вялікую па тэрыторыі еўрапейскую краіну (калі не лічыць еўразійскай Расіі), але і многія іншыя дзяржавы нашага кантынента. З глабальнага гледзішча паскорыўся працэс распаду постсавецкіх таталітарных рэжымаў. Савецкі Саюз, які ўжо даўно перастаў існаваць як дзяржаўнае ўтварэнне, на жаль, жыве дагэтуль у іншых формах, якія імкнецца жывіць і падтрымліваць ад веку імперская Масква. Але кола гісторыі адкруціць назад не ўдасца нікому.

Гледзячы незалежныя ўкраінскія тэлеканалы, адразу звяртаеш увагу на розніцу паміж падзеямі Аранжавай рэвалюцыі 2004 года і цяперашнім народным паўстаннем. Тады галоўнай рухальнай сілай змен былі ангажаваная апазіцыя ды заходнія вобласці, якія характарызуе высокая ступень нацыянальнай свядомасці. Зараз жа супраць рэжыму Януковіча выступае вялікая колькасць і рускамоўных людзей. Характэрнае патрабаванне народу ёмка сфармуляванае кароткім лозунгам „Банду — гэць!". Не прэзідэнта, не ўладу і нават не дыктатуру. Прэч менавіта банду, мафіёзны клан алігархаў, якія пераўтварылі краіну ў зону беззаконнасці, татальнай карупцыі і падману. Украіна перажывае сапраўды народнае паўстанне супраць такога стану рэчаў. Што б не казалі і плявузгалі імперскія прапагандысты, сёння дзяржаўнай уладзе супрацьстаяць найперш не экстрэмісты, не нейкія ультрарадыкалы, ва Украіне паўстаў цэлы народ, кожны сумленны неабыякавы чалавек не можа заставацца ўбаку ад Майдана. Людзі выйшлі на вуліцы амаль усіх абласных цэнтраў і вялікіх гарадоў. Супраць іх дзяржаўныя сілавыя структуры і бандыты рознай масці, якія гуртуе і нацкоўвае ўлада, якім плацяць грошы і якія ў сваёй абсалютнай большыні не маюць аніякіх ідэалаў ці каштоўнасцей, апрача асабістай выгады. Сітуацыя ўжо выйшла з прававога поля. Акрамя застрэленых спецназам пратэстоўцаў у цэнтры горада, людзей па-бандыцку выкрадаюць, вывозяць з Кіева, катуюць, кідаюць на марозе, разбіваюць і паляць аўтамашыны з іншагароднімі нумарамі. Дастаецца і журналістам, многіх з якіх даволі сур'ёзна збілі.

Прэзідэнт Януковіч, праўдападобна, быў ужо гатовы ўвесці ва Украіне ваеннае становішча і падавіць брутальнай сілай народнае паўстанне, праліць вялікую кроў. Ад гэтага яго стрымалі ўчарашнія паплечнікі, уплывовыя алігархі, якія гатовы ў зручны момант „здаць" свайго „боса" — усё дзеля ратавання сваіх банкаўскіх рахункаў у чужых Еўропе і Амерыцы, якіх яны баяцца куды менш, чым роднаснай для іх Расіі, у якой няма ніякіх правілаў нават для „сваіх". Здавалася б, маналітная яшчэ месяц таму Партыя рэгіёнаў, зараз трашчыць і развальваецца. Януковіч яшчэ можа нарабіць бяды і зла, але гэта ўжо палітычны труп.

Характэрна, што і палітычная сістэмная апазіцыя — фактычна толькі дадатковы чыннік падзей, амаль усе сур'ёзныя агляднікі і аналітыкі адзначаюць, што лідары апазіцыйных партый маюць толькі пэўныя ўплывы на Майдан і змушаны лічыцца акрамя ўлады, з народнай сілай, узгадняць з народным вечам свае патрабаванні і дзеянні. Пры тым уласна лідары трох буйнейшых партый выглядаюць не зусім выразна. А часам проста бляклa. Іх максімум — дамагчыся вяртання Канстытуцыі 2004 году і зрабіць Украіну зноў дзяржавай з парламенцка-прэзідэнцкай формай кіравання. Калі гэта ўдасца дасягнуць — ужо будзе добра, бо з'явіцца эвалюцыйная магчымасць пераходу да дэмакратычнага рэфармавання і мірнага ўладкавання краіны.

Калі пераключаешся на расійскія тэлеканалы, трапляеш у іншы свет — прастору шавіністычнай нянавісці да ўсяго ўкраінскага. Вядоўцы, „народныя дэпутаты", дырэктары нейкіх аналітычна-стратэгічных цэнтраў, псеўдаэксперты проста захлынаюцца слінай ад эмоцый і злосці. Яны так і не зразумелі, што адбываецца ва Украіне зараз. Яны не хочуць разумець, што на Майдан і плошчы іншых гарадоў выйшлі не аплачаныя захадам „бандэраўцы", як яны гэта падаюць. На плошчы выйшлі ўкраінцы, беларусы, рускія, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, якія хочуць вызваліць Украіну ад мафіі і жыць у нармальнай краіне.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Добрая нагода



Як паказвае грамадзянская майданавая рэвалюцыя, падзел Украіны на прарасійскі ўсход і праеўрапейскі захад не такі відавочны. Больш за тое, няма ніякіх крышталёва аднастайных нацый, а раздзяляльных ліній на грамадскай карце гэтай краіны нашмат больш. Некаторыя з іх зарысаваныя тоўстай, іншыя амаль нябачнай лініяй. У гэты час, аднак, самай важнай з'яўляецца тая, што адлучае ашуканцаў і падманваных, кіраўнікоў і кіраваных. Майданы на ўсходзе і захадзе Украіны спалучыў калектыўны голас. Гэта вокліч за справядлівую, прававую дзяржаву. Гэтае пытанне паднятых са злога сну людзей: як маглі яны дапусціць да таго, каб іхняя Украіна, іхняя дзяржава стала прыбытковым праектам для жменькі палітычных прайдзісветаў, партыйных і самаўрадавых рабаўнікоў ды бізнес-махляроў? Грамадскі пратэст супраць ізгояў улады ўжо ахапіў усю краіну. Мы не ведаем сёння, чым гэта скончыцца — грамадзянскай вайной ці нацыянальным кансенсусам. Не ведаем таксама, ці Украіне ўдасца самаачысціцца з атручаных радовішчаў нарастаючага нацыяналізму, папулісцкіх ідэалогій, чыноўніцкай дэмаралізацыі, велізарных сацыяльных няроўнасцей, гаспадарчага і эканамічнага краху. Але ведаем больш, што ў сэрцах мільёнаў украінцаў прачнуўся грамадзянскі клопат за ўласную дзяржаву, за будучыню Украіны. Ці яны складаюць большасць жыхароў гэтай краіны? Акажацца гэта на працягу некалькіх дзён, можа, некалькіх тыдняў ці месяцаў. У любым выпадку, на ход майданавай рэвалюцыі глядзяць з трывогай еўрапейскія ўрады, а асабліва Польшчы і Беларусі.

Для Польшчы, аднак, гэта толькі пытанне добрасуседскага дабрабыту, звязанага з палітычным і сацыяльным расстроем суседняй дзяржавы. Для Беларусі, у роўнай ступені глыбока падзеленай як Украіна прарасійскімі і праеўрапейскімі сімпатыямі, з'яўляецца ў першую чаргу пытаннем будучыні лукашэнкаўскага кіраўніцтва, якое без падтрымкі расійскага крэдыту даўно б загінула. Не без падстаў, інфармацыя пра падзеі ва Украіне душыцца беларускімі СМІ. А іншых, акрамя ўрадавых, там практычна няма. Так вось майданавая рэвалюцыя прадстаўлена ў іх як бездказны скандал, натхнёны дысідэнцкай чэрню: украінскімі нацыяналістамі і фашыстамі ды еўрасаюзымі стратэгамі, якія хочуць загуляць у нос Расіі. Паколькі амаль трэць беларусаў не супраць аб'яднання з магутным суседам (што вынікае з нядаўняга апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў НІСЭПД), медыйная хлусня падтрымлівае вялікую частку грамадства ў стане бяздумнай агіды да ўкраінскіх падзей. Гэта не аб Расіі гаворка, але аб усё больш дэнацыяналізаваным урадзе Аляксандра Лукашэнкі. Яму залежыць выключна на ўтрыманні адзінаўладдзя. Дыктатарскай улады. Адвольнай і антыгрмадзянскай. Падобна як Януковічу на Украіне. Таму што такая ўлада — залаты бізнес.

Смерць Міхаіла Жызнеўскага на кіеўскім Майдане сімвалічная. Вось на барыкадзе ўкраінскай рэвалюцыі стаяў беларус. На жаль, трагічна загінуў. Магчыма, такіх маладых заўзятараў, як ён, засталося там больш. Прыклад украінцаў, якія прачнуліся з грамадзянскага маразму і ўзялі справу ў свае рукі — натхненне для іх. Гэта не азначае, аднак, што вернуцца яны на радзіму пасля для таго, каб зараз склікаць беларускія майданы. Само перакананне, што ўсё залежыць ад іх саміх, грамадзян, з'яўляецца неацэнным. Трэба толькі сабрацца. І з гэтым у Беларусі ненайлепш. Неўзабаве пройдуць выбары ў мясцовыя органы ўлады. Вядома загадзя, што перамогуць у іх кандыдаты, вылучаныя лукашэнкаўскім апаратам улады. Па гэтай прычыне частка апазіцыйных дзеячаў вагаецца, ці балатавацца у іх сваіх кандыдатаў. Некаторыя сцвярджаюць, што ўдзел у іх будзе ўзаконеннем улады Лукашэнкі. Таму выбары трэба байкатаваць. Але гэта так, як схаваць сваю галаву ў пясок, робячы выгляд, што палова беларусаў не бачыць іншай альтэрнатывы палітычнага ладу, чым лукашэнскі. Але чаму не бачыць? Таму іншыя маюць іншае меркаванне. Па іх словах, удзел у выбарах з'яўляецца выдатнай нагодай, каб прабіцца праз муры апазіцыйнага гета, у якіх зачыніла іх улада і прадставіць сваю палітычную праграму больш шырокаму колу выбаршчыкаў. Таму што калі не адразу, то хоць і памаленьку. На колькі хопіць цярпення народу. І таго ў ім усё менш і менш пасля нядаўняга павышэння цэн. Добрая гэта нагода, каб растлумачыць выбаршчыкам, чыёй уладзе яны павінны быць «удзячнымі» за іх.

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# У чаканні справядлівасці

— Мне сорамна за польскую дзяржаву. Не ў першы раз, таму што не першы раз маем сітуацыю, калі сістэма польскай справядлівасці паводзіць сябе цалкам дзіўна ў адносінах да беларускай апазіцыі. Гэта справа, аднак, асаблівая, цягнецца на працягу стольскіх гадоў. Хочацца верыць, што Суд выдасць апраўдальны прысуд. Я быў уражаны выступленнем пракурора і яго наіўнасцю. Хачу верыць, што гэта наіўнасць, бязглуздасць, таму што не хачу тут рабіць далёка ідучых высноў. Яго ацэнка сітуацыі ў Беларусі здзіўляе, адмаўляе тое, што існуе там рэжым. Не, не, спадар пракурор, там існуе рэжым, — так пракаментавала 30 студзеня пасля выхаду з залы беластоцкага раённага суда дэпутатка ад ПіС Малгажата Гасеўская, пасля працэсу аб нібыта махлярстве, здзейсненым у дачыненні да двух банкаў у 1994 годзе беларускім апазіцыянерам Андрэем Жукаўцом.

Прысуд у гэтай справе прагучыць у дзень з'яўлення ў продажы гэтага нумара «Нівы», значыць, 6 лютага.

Яшчэ перад разборам справы ў судзе ў абарону Андрэя Жукаўца пратэставала група са «Звязу для дэмакратыі ў Беларусі» з расцяжкай «За нашу і вашу свабоду» і бел-чырвона-белымі сцягамі. Яны лічаць, што Жукавец з'яўляецца першым беларускім палітвязнем у Польшчы (у 2001 годзе ён правёў у дэпартацыйным арышце больш за 80 дзён, і зараз адпушчаны на паруку), і прысуд у першай інстанцыі на турэмнае зняволенне — лічаць не толькі несправядлівым, але хутчэй парушэннем правоў чалавека.

У час разбору 30 студзеня вельмі эмацыйную пазіцыю па гэтым пытанні ў абарону абвінавачанага прадставіў перад судом Станіслаў Буйніцкі, член галоўнага праўлення Польска-паланійнай арганізацыі польскага народа «Польская ліга», сузаснавальнік Саюза палякаў у Беларусі, не пакідаючы сухой ніткі на пракуратуры: «Я заклікаю ўсіх байкатаваць беластоцкую пракуратуру, якая не вельмі дае фактычнага становішча і эканамічных адносін у Беларусі».

Гэтае выступленне было сустрэтае кур'ёзнымі паводзінамі абвінавачваючага боку — пракурора Анджэя Сліўскага. Выйшаўшы з залы суда, крычаў, пагражаючы Станіславу Буйніцкаму крымінальнай адказнасцю за выказаныя ў зале суда меркаванні.

Ад рашэння беластоцкага Раённага суда адкліканся сам абвінавачаны і яго абаронцы з варшаўскай юрыдычнай канцылярыі, што ўзяліся весці справу без ганарару. Раённы суд прысудзіў Андрэя Жукаўца да трох гадоў абсалютнага пазбаўлення волі і 15 тысяч злотых штрафу. Андрэй Жукавец падкрэслівае, што першапачаткова паставілі супраць яго толькі скаргу немэтазгоднага выкарыстання крэдыту і працэс па справе быў спынены. Ініцыявалі яе зноў у 1999 годзе, калі прыйшоў да ўлады Аляксандр Лукашэнка, а Жукавец пачаў дзейнічаць у апазіцыі. Крэдыт пагашаў, але рэжым ліквідаваў яго фірму і сфабрыкаваў доказы супраць яго. У яго не было выбару, чым збегчы ў Польшчу. У канчатковым рахунку, не быў дэпартаваны, таму што Польшча заключыла, што ў Беларусі не будзе мець ён ніякіх шанцаў на справядлівае судовае разбіральніцтва. 30 красавіка 2013 года, пасля амаль 12 гадоў разбору польскімі праваахоўнымі органамі і судовай сістэмай, Раённы суд у Беластоку прызнаў яго вінаватым і наклаў значна больш суровае пакаранне, чым тое, якое прапанавала пракуратура (два гады зняволення, умоўна).

— Турмы я не баюся, проста прашу справядлівасці, — сказаў цяпер перад судом у заключным выступленні. — Усю крымінальную справу ў дачыненні да мяне лічу несправядлівай. Я даверыў Польскай Рэчы Паспалітай, думаў, што тут пазбегну праследу з боку рэжыму Лукашэнкі. Але я быў арыштаваны ў 2001 годзе і заключаны ў арышт. Тады я строга ўяўляўся пры кожным выкліку, не з'ехаў адсюль, хаця мог зрабіць гэта ў любы час. Я заўсёды думаў, што буду апраўданы. Зараз прашу справядлівасці.

Жукавец адзначыў, што ў прынцыпе перашкаджалі яму ў абароне; не мог удзельнічаць у дзеяннях, якія вёў польскі суд у Беларусі, у тым ліку ў допыце сведак, і што польскае правасуддзе абапіралася на сведчанні беларускага боку, не правяраючы іх, разглядаючы тамашнія органы як «раўнапраўныя, справядлівыя, сумленныя, надзейныя, нефальсіфікуючыя дакументы». Ён паставіў пад сумненне паказанні сведак апытаных у прысутнасці польскага суддзі ў Беларусі.

Некаторыя беларускія апазіцыйныя арганізацыі ўжо заявілі, што звернуцца да Вярхоўнага прадстаўніка ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі з прапановай накласці санкцыі супраць пракурора Анджэя Сліўскага і суддзі Шчэнснага Шыманскага, калі не абвінавачыць прысуд у Раённым судзе.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

Размова з **Мікалаем Пінігіным**, мастацкім дырэктарам Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску, рэжысёрам „Пана Тадэвуша” паводле Адама Міцкевіча, якога прэм’ера адбылася 15 студзеня.




Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# „Пан Тадэвуш”
## на мінскай сцэне

«**Пан Тадэвуш**» у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы — першая пастаноўка гэтай паэмы ў Беларусі. Гэта таксама першае новае прадстаўленне ў яго будынку пасля рамонту. На беларускую мову твор быў перакладзены пяць разоў (у тым ліку тры пераклады былі поўныя) — першы раз Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам у 1859 годзе. На сцэне Купалаўскага тэатра твор гучыць у перакладзе памерлага ўжо паэта і перакладчыка Язэпа Семяжона. Галоўнага героя паэмы іграе Павел Харланчук, Графа — Раман Падаляка, Тэлімэну — Юлія Шпілеўская і Святлана Анікей, Зосю — Марта Голубева і Крысціна Казак. Аўтарам сцэнічнага афармлення з’яўляецца Зіновій Маргонін, касцюмы распрацаваны Алёнай Ігрушай. Аўтар музыкі — Андрэй Зубовіч. У спектаклі паказваюцца вытрымкі з фільма «Пан Тадэвуш» Анджэя Вайды ды нямога фільма Рышарда Ардынскага з той жа назвай з 1928 года. Таксама выкарыстоўваюцца гравюры Напалеона Орды, якія паказваюць Навагрудак і Мір. Прэм’ерны паказ публіка прыняла авацыямі. У апошнюю хвіліну спектакль быў цэнзураваны Міністэрствам культуры. З дэкарацый у адной са сцэн быў зняты герб Пагоня. Па словах Мікалая Пінігіна, уражанага такім рашэннем, не паўплывала гэта, аднак, на форму ўсяго спектакля і задуманага паведамлення. Увесну запланаваны паказы ў Парыжы. Пакуль невядома ці мінскі «Пан Тадэвуш» будзе паказаны ў Польшчы.

**Мацей Халадоўскі: — Чаму Вы вырашылі на галоўнай тэатральнай сцэне Беларусі паставіць менавіта „Пана Тадэвуша” Адама Міцкевіча?**

Мікалай Пінігін: — Справа вельмі простая. Чэслаў Мілаш калісьці пісаў, што Міцкевіч вёў свой род з таго рэгіёна Літвы, дзе сяляне былі беларусамі. Ён ужываў слова „Літва”, маючы на ўвазе тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага, а не ў лінгвістычным або этнічным сэнсе. Міцкевіч нарадзіўся ў Навагрудку і лічыў сябе ліцвінам. Дарэчы, ліцвінам яго ў Пецярбургу называлі і Пушкін, і Вяземскі, з якімі ён сябраваў. Калі Міцкевіч выкладаў у Коўне латынь, сваіх вучняў ён называў жмудзінамі, а іх мовы амаль што не ведаў. А ў сваіх лекцыях у Калеж дэ Франс казаў: „На мове Белай Русі, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай, гавораць каля дзесяці мільёнаў чалавек. Гэта самая багатая і чыстая гаворка, якая ўзнікла вельмі даўно... Пісьмовых помнікаў, напісаных на гэтай мове, самай гарманічнай і найменш зменenай з усіх славянскіх моў, засталося мала — толькі Літоўскі Статут”.

Думаю, прычын дастаткова, каб тлумачыць беларусам, што такое „Litwa ojczyzna moja”. А напісаў Міцкевіч свайго „Тадэвуша”, канешне, па-польску, бо ў часы Рэчы Паспалітай гэта была дзяржаўная мова. А з цягам часу шляхта паланізавалася, і беларуская мова захавалася толькі як „сялянская гаворка”.

**— Вы казалі ў адным інтэрв’ю, што гэты спектакль — асветніцкі праект. Што Вы мелі на ўвазе?**

— Значная колькасць беларусаў сваёй гісторыі не ведае. Іх прымусілі думаць, што яны выключна сялянская цывілізацыя. Але была і шляхецкая гісторыя, гісторыя людзей, якія лічылі сябе ліцвінамі. Гэта тычыцца і Касцюшкі, і Міцкевіча, і шмат яшчэ каго. Думаю, 90% беларусаў „Пана Тадэвуша” не чыталі, хаця гэта кніжка прадаецца ва ўсіх кнігарнях у серыі „Бібліятэка школьніка”.

**— А што такое ў кантэксце „Пана Тадэвуша” нацыянальная ідэя?**

— Увогуле нацыянальная ідэя не ствараецца за адзін дзень. Беларусь незалежная дваццаць з нечым гадоў, але за такі кароткі час немагчыма стварыць акрэсленую і зразумелую нацыянальную ідэю. Я лічу, што зараз ідзе пошук нацыянальнай ідэі. Зараз у Беларусі самая галоўная праблема — пытанне нацыянальнай ідэнтычнасці. У найноўшай гісторыі Беларусі людзі не разумеюць, хто яны, гэта не акрэслена ў іх свядомасці. Для любой нацыі нацыянальная ідэя пастаянна ствараецца і карэкцыруецца нанова. Пошук нацыянальнай ідэі — доўгі шлях. Я не думаю, што яна існуе ў любой нацыі як факт. Але трэба шукаць, вывучаць сваю культуру і сваю гісторыю, якая б цяжкая і складаная яна не была.

**— Якім чынам можна аднаўляць гістарычную памяць у беларусаў? Ці магчыма рабіць гэта праз „Пана Тадэвуша”?**

— Канешне. Тое, як Міцкевіч разумеў сваю айчыну. Ён у паэме кажа пра Літву, адначасова кажа „О польскае крыві ты сэрца залатое”, то-бок ён разумее сябе жыхарам Рэчы Паспалітай, але рэгіянальна — ліцвінам. А для мяне, і для многіх людзей, перыяд Вялікага Княства Літоўскага быў перыядам, дзе ўсё ж такі былі напісаны Статуты, якія вельмі сур’ёзна паўплывалі на еўрапейскую свядомасць, прававу свядомасць, вельмі прагрэсіўныя законы былі. Шмат этнасаў жылі ў згодзе ў гэтым Княстве. Не было рэлігійнага ціску. Сталі мячэці, сінагогі, касцёлы, цэрквы... Ёсць адна вельмі важная гісторыя. Яўрэі вельмі любілі гэты край. Гэта сур’ёзны тэст — калі яўрэй любіць зямлю, на якой ён жыве. У згодзе жылі розныя людзі ў гэтай еўрапейскай краіне; я не кажу што ўсё так цудоўна было, але мне падаецца, што гэта такі сур’ёзны вобраз для сённяшняй Беларусі. І з гэтых часоў трэба штосьці ўзяць, як для еўрапейскай сучаснай краіны. Я не кажу што ўсё. Але такі залаты век ліцвінска-беларускай гісторыі — няхай у марах нашых існуе. „Пан Тадэвуш” — гэта рэгіянальная культура, культура памежжа.

**— Чаму, на Вашу думку, беларусы не бачаць гэтай супольнай спадчыны?**

— Гэта звязана са стратай у даўнія часы сваёй дзяржаўнасці і знікнення нацыянальнай эліты. Людзі беларускай зямлі падпадалі пад уплыў расейскай культуры, або польскай і працавалі на карысць адной ці іншай цывілізацыі. Для маладой незалежнай краіны, якая паўстала ў найноўшы час, гэта сур’ёзная праблема. Трэба ведаць сваю гісторыю, сваю культуру і смела глядзець у будучыню. Шапэн і Міцкевіч увайшлі ў свядомасць беларуса таксама як Чайкоўскі і Пушкін. Розныя культуры, якія ўплываюць на народ, робяць яго багатым, больш талерантным да суседзяў, пазбаўляюць яго вузкага тупога нацыяналізму.

**— Ці варта палякам непакоіцца з-за таго, што Вы паставілі менавіта беларускага „Пана Тадэвуша”? Для палякаў „Пан Тадэвуш” — нацыянальны міф.**

— Я думаю, што непакоіцца не трэба. Мы не кажам, што гэта не польскі паэт — гэта было б смешна. Па мове гэта не беларускі нацыянальны паэт, але ў ментальнасці сваёй ён этнічны ліцвін. Па сваёй прыродзе, па сваім правінцыяльным адчуванні ён належыць Навагрудчыне. А гэта этнічна беларуская зямля. Ён ведаў, так бы мовіць, „мужыцкую мову”. А той факт, што ён не пісаў на ёй, зразумелы — яго дзяржаўнай мовай была польская. А якое дачыненне маюць сучасныя літоўцы да Міцкевіча? Ён вучыўся ў Вільні, напісаў „Litwo, ojczyzno moja”. У паэме бясконца узгадваецца Жмудзь: „Няхай на Жмудзі раўне мядзведзь”. Я думаю, што не трэба непакоіцца. Гэта агульная спадчына. Мы ў перакладзе на беларускую мову гэта ўсё робім (пераклад Язэпа Семяжона), да гэтага «Тадэвуша» перакладалі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Пятро Бітэль, Браніслаў Тарашкевіч. У прадмове Дунін-Марцінкевіч піша: „Няхай просты народ з-над Нёмана, Віліі, Дзвіны і Дняпра зразумее як жылі яго продкі ў тыя часы...”. Міцкевіч апісвае ў сваёй паэме гэтую Літву: там ёсць і Мір, і Карэлічы, Навагрудак, Ліда, Мінск. Дарэчы, Міцкевіч не бываў на землях Кароны. Ні ў Варшаве, ні ў Кракаве — толькі крыху ў Познані. Для яго Польшча — гэта Літва, якую ён ведаў. Канешне, Літва часоў Рэчы Паспалітай, ужо пасля ўсіх падзелаў, тая, дзе жылі яго бацькі. Гэта такая рэгіянальная гісторыя. Ментальна, не па мове — тут не трэба нікому непакоіцца.

**— Вернемся да пастаноўкі. Кажуць, што ў Вашым спектаклі шмат пафасу. Лічыце, што ён патрэбны ў „Пану Тадэвушы”?**

— Можа ён і ёсць, мне цяжка сказаць. Не магу з боку ацаніць сваю працу. Такіх тэкстаў, якія пісаў Міцкевіч, зараз ніхто не піша. І я ўпэўнены, што сёння ўвогуле не паўстала б паэма на 450 старонак. Цяпер у літаратуры камп’ютарны фармат размовы. „Пан Тадэвуш” — рамантычная, узнёслая літаратура. Яна — не бытавая, не сучасная. Можа таму сучасны глядач адчувае пафас. Але немагчыма зрабіць гэтую паэму ў постмадэрнісцкім ключы. Тым больш, паўтаруся, гэта асветніцкі праект: я хацеў пазнаёміць беларусаў з самім Міцкевічам, а не з Пінігіным. Думаю, што ў Польшчы можна ставіць якога заўгодна Міцкевіча, бо ўсе ведаюць паэму, сюжэт, герояў. Я наўмысна рабіў гэты спектакль вельмі простым — амаль што дэкламацыя паэмы са сцэны. Там вельмі мала фармальных рэжысёрскіх прыёмаў, таму што я сам чытаў яе першы раз тыдзень са слоўнікам. Беларусам трэба ведаць што такое Трэцямайская канстытуцыя, Таргавіца і так далей. Гэта няпросты матэрыял. Нам цяжка апірацца на гістарычную памяць народа. Калі сэрца за нешта баліць, тады чалавек адчувае сябе ўзнёсла. Таму, напэўна, „Літва, мая айчына!” можна толькі з пафасам сказаць. А ад постмадэрнізму ў тэатры я стаміўся.

**— Дзякую з размову.**

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Białystok, 28.01.2014**
Stowarzyszenie
na Rzecz Dzieci i Młodzieży
Uczących się Języka Białoruskiego
AB-BA
ul. Częstochowska 6a lok 8

**Prof. Leonard Etel**
**Rektor Uniwersytetu**
**w Białymstoku**

**Wasza Magnificencjo!**

Z prawdziwym zdziwieniem przyjęliśmy informację o tym, że dziekan Wydziału Filologicznego wstrzymał nabór studentów na filologię białoruską. Z wypowiedzi prasowych wynika, że jest to pierwszy krok ku nieuchronnej likwidacji tej placówki naukowo-dydaktycznej. Rozumiemy oczywiście przyczyny ekonomiczne. Ten fakt, że w ostatnich dwóch latach nie było wystarczająco chętnych do podjęcia studiów na tym kierunku może rzeczywiście być usprawiedliwieniem takiej doraźnej decyzji. Nie możemy jednak nie zadać pytania: co uczelnia zrobiła, aby tych studentów pozyskać? Kolejne pytanie, to: co dalej? Powinno ono nurtować nie tylko białoruską społeczność Podlasia, ale także władze Uniwersytetu w Białymstoku.

Pan profesor na pewno doskonale pamięta proces tworzenia się Uniwersytetu w Białymstoku. Chcemy jednak przypomnieć rolę, jaką w tym procesie odegrał redaktor Jerzy Giedroyć. O jego poparcie dla utworzenia samodzielnej uczelni ubiegała się profesura ówczesnej Filii Uniwersytetu Warszawskiego. Redaktor takiego poparcia udzielił. Wskazał przy tym drogę, jaką nowy uniwersytet powinien podążać w naukach humanistycznych, a mianowicie, specjalizować się we wszechstronnym badaniu problematyki białoruskiej. Nie musimy chyba dodawać, że ten swoisty testament Redaktora nigdy nie został zrealizowany. Nie powstał w Uniwersytecie Instytut Białoruski, co było w latach 90. postulatem naukowców ze środowiska białoruskiego Białegostoku. Zamiast niego utworzono Katedrę Kultury Białoruskiej, która nigdy nie nabyła uprawnień do naboru studentów. A los Katedry Filologii Białoruskiej dzisiaj także wydaje się przesądzony. Proszę jednak pamiętać, że zlikwidować łatwo, ale odrodzić jest znacznie trudniej.

Wydaje się nam, że Uniwersytet w Białymstoku traci szansę na zaistnienie w polskiej humanistyce. Dotychczas nie zdecydował się na zagospodarowanie tej niszy, jaką w Polsce jest białorutenoznawstwo. A do tego uczelnię predestynuje chociażby położenie geograficzne. Nie trzeba tutaj rozbijać głową muru, wystarczy przyjrzeć się temu, jak w Lublinie rozwija się ukrainoznawstwo.

Jesteśmy przekonani, że rozwijanie studiów filologicznych, wzbogaconych o etnologię, historię Białorusi, politologię etc. jest przede wszystkim w interesie młodego Uniwersytetu w Białymstoku. Jeśli rzeczywiście chce on być — zgodnie z autoreklamą — dynamiczny i z perspektywami.

**Z wyrazami szacunku**
**Barbara Piekarska**
Przewodnicząca
Stowarzyszenia AB-BA

**Do wiadomości:**
1. Katedra Kultury Białoruskiej
2. Program „Białoruski Tydzień" TV Białystok
3. Program „Pod znakiem Pogoni" Polskie Radio Białystok
4. Białoruskie Radio Racja
5. „Niwa" Tygodnik Białorusinów w Polsce
6. Miesięcznik „Czasopis"

# Фільмы і карціны ў БІБЛІЯТЭЦЫ



Тамаш Анікіюк расказаў сабраным пра свае фільмы

**Гарадская публічная бібліятэка ў Гайнаўцы ладзіць сустрэчы з літаратарамі, гісторыкамі, арганізуе агляды фільмаў і выстаўкі мастакоў. Героямі сустрэч у гэтай установе былі, між іншымі, Сакрат Яновіч, Аляксандр Баршчэўскі, Міраслава Лукша, Міхал Андрасюк, Алег Латышонак, Дарафей Фіёнік, Міхал Кандрацюк. У малой бібліятэчнай галерэі прэзентаваліся мастацкія працы Віктара Кабаца, Пётра Гагана, Анатоля Корзуна і іншых мясцовых мастакоў. Арганізаваліся таксама шматлікія выставы здымкаў мясцовых фатографаў. Апошнім часам пад наглядам дырэктар Галіны Вайсковіч адбыўся грунтоўны рамонт гайнаўскай бібліятэкі ў рамках праекта «Аранжыроўка і абсталяванне Гарадской публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы», рэалізаванага Інстытутам кніжкі паводле праграмы Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны.**



Барташ Шпаковіч з мамай побач сваіх прац

17 студзеня многа людзей прыбыло ў бібліятэку на прэм'еру фільмаў Тамаша Анікіюка з Гайнаўкі «Гэта я, лясны работнік — Дух Пушчы» і «Дотык цішыні», якіх сарэжысёрам з'яўляецца Багуслава Чаркоўская з Гайнаўкі ды на выставу жывапісу Барташа Шпаковіча з Белавежы і згаданай Багуславы Чаркоўскай. Галоўным арганізатарам мерапрыемства была кіраўнік бібліятэчнай чытальні для дарослых Ала Грыц, якая вяла сустрэчу.

Фільм «Гэта я, лясны работнік — Дух Пушчы» паказвае жыццё жыхароў вёсак Старое Масева, Новае Масева, Альхоўка і Семяноўка, якія ўспамінамі вяртаюцца ў сваё дзяцінства і маладосць. На старых фатаграфіях бачым іх у святочныя і будныя дні, падчас працы і адпачынку. Старэйшыя асобы ўспамінаюць цяжкую працу ў лесе і з настальгіяй вяртаюцца ў часы сваёй маладосці, калі ў прыпушчанскіх сёлах было мнагалюдна і весела. Пасля маладыя сталі выязджаць і частка дамоў апусцела. Тыя, што засталіся жыць на месцы, мусілі шукаць працу далей ад дому, паколькі вельмі моцна абмежаваўся лік лясных працаўнікоў у пушчы. Героі фільма разважаюць: якая будучыня чакае Белавежскую пушчу, з якой так зжыліся?

— Мяне цікавіла цяперашняе жыццё і мінулае жыхароў прыпушчанскіх вёсак. Людзі ахвотна ўспаміналі і выяўлялі заклапочанасць будучыняй пушчы. У фільме выкарыстаў я толькі частку сабранага матэрыялу. Астатнюю частку, між іншым з Белавежы, хацеў бы я папоўніць новымі сюжэтамі і зрабіць даўжэйшы фільм аб пушчанскіх людзях, адная для гэтага патрэбны адпаведныя сродкі. Дзяцінства я правёў у інтэрнаце для рабочых у Белавежскай пушчы, які вялі мае сямейнікі. Мая мама выводзіцца з гайнаўскай вуліцы Горнае, якая раней была вёскай, а бацька — з Ласінкі. У гэтых месцах яшчэ застаўся клімат, які я прэзентую на фільмах. Я тут нарадзіўся і на дакументальных стужках хачу паказваць перадусім сваю Малую Бацькаўшчыну, — сказаў Тамаш Анікіюк (рэжысёр, аўтар сцэнарыя, здымкаў і мантажыст), вядомы ў Гайнаўцы дакументальнымі фільмамі аб Гайнаўшчыне і яе наваколлі. Вялікая частка яго фільмаў тычыцца мясцовых беларусаў і праваслаўя, паказвае Гайнаўку, Койлы, Чаромху, Янова, Масева і іншыя вёскі. На дакументальных стужках Тамаш Анікіюк увекавечыў беларускія мерапрыемствы, арганізаваныя Музеем і асяродкам беларускай культуры з Гайнаўкі: «Культура на музейных сходах», «І там жывуць людзі», «Нядзеля ільняных кашуль», «Не святыя гаршкі лепяць». Паказвае жыццё ў вёсках, рэлігійную актыўнасць мясцовага грамадства. Яго фільмы аб Гайнаўцы датычаць жыцця мясцовых беларусаў. У 2012 годзе Тамаш Анікіюк зняў дакументальную стужку «Брацкая свяча» аб традыцыі выконвання свечак у Койлах. На яго фільмах адлюстраваны святкаванні Праабражэння Гасподняга на Грабарцы («Шукаючы Бога»), Тройцы ва ўрочышчы «Крынічка» побач Гайнаўкі. Тамаш Анікіюк прэзентуе на сваіх стужках прыгожасць Белавежскай пушчы, напрыклад на фільме «Слядамі зубра», а фільм «Прыпынак Гайнаўка» паказвае цяперашнюю Гайнаўку. Ён таксама аўтар стужак аб гайнаўскім рок-фестывалі, на якім выступалі гурты з Беларусі. Здымаў ён іншыя гайнаўскія музычныя мерапрыемствы, узнімае гістарычныя тэмы, напрыклад, у фільме «Курганы, містычныя месцы Гайнаўшчыны», які паказаў у гайнаўскай бібліятэцы па-за праграмай сустрэчы.

Тамаш Анікіюк многа фатаграфуе, робіць стаўку на гульню са святлом і колерамі. Перадусім здымае акружаючую Гайнаўку прыроду, Белавежскую пушчу, краявіды з архітэктурай. Ён — лаўрэат конкурсу «Падляшша ў аб'ектыве», арганізаванага Гайнаўскім белмузеем. Атрымаў першыя ўзнагароды ў 2006 і 2009 гадах, а трэцяе месца заняў у 2008 годзе. У іншых гадах яго фатаграфіі атрымлівалі вылучэнні. У мастацка-дакументальным фільме «Дотык цішыні» паказаў дэпрэсію маладой мастачкі, якая па гэтай прычыне перастала маляваць. На вуліцы сустракае яна маладога хлопца, які малюе яе партрэт. Хлопец запрашае дзяўчыну ў Спецыяльны школьна-выхаваўчы асяродак у Гайнаўцы, паказвае ёй выставу мастацкіх прац і запрашае на мастацкія заняткі, пад якіх уздзеяннем дзяўчына вяртаецца да малявання. Галоўнымі героямі фільма з'яўляюцца Багуслава Чаркоўская і Барташ Шпаковіч.

— Калі я малявала ў Беластоку, падышоў да мяне Тамаш Анікіюк і так мы пазнаёміліся. Цяпер супольна здымаем фільмы. Я свае карціны выконваю доўга, прыглядаюся ім паўторна і папраўляю. Я перадусім выконваю структурныя працы, — сказала Багуслава Чаркоўская, выпускніца Мастацкага ліцэя ў Супраслі, цяпер жыхарка Гайнаўкі. Працуе яна дызайнерам, а апрача малявання фатаграфуе, цікавіцца фільмам.

У другой частцы сустрэчы адбылося адкрыццё выставы мастацкіх прац Барташа Шпаковіча з Белавежы і Багуславы Чаркоўскай. Барташ Шпаковіч, закончыўшы адукацыю ў Спецыяльным школьна-выхаваўчым асяродку ў Гайнаўцы, працягваў навуку на Майстар-класах па працатэрапіі ў Гайнаўцы.

— На працах Барташа Шпаковіча бачым гульню колераў, якія сімвалізуюць пэўныя задумы аўтара. З дапамогай карцін паказвае ён свой багаты ўнутраны свет, бо кожны чалавек носіць нешта ў сабе і не ведае, калі гэта паказаць вонкаваму свету. Працы Барташа — гэта яго захапленне, якое выяўляе з дапамогай фарбаў — заявіў гайнаўскі мастак Віктар Кабац.

З падарункамі і словамі падзякі за дзейнасць у карысць мясцовага грамадства звярнуўся да герояў сустрэчы сакратар Гарадской управы Гайнаўкі Яраслаў Грыгарук. Свайго былога вучня Барташа Шпаковіча вельмі цёпла ўспамінала Люцына Ваўрашук, дырэктар Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка ў Гайнаўцы і разам з настаўніцамі гэтай школы ўручыла Барташу падарункі. Кіраўнік Майстар-класаў па працатэрапіі ў Гайнаўцы Міхал Байко пахваліў Барташа за яго плённую мастацкую працу.

— Барташ Шпаковіч гэта радасны хлопец, які не можа свабодна паразумецца з іншымі. Гэты недахоп кампенсуе яму мастацкі талент. Вельмі ўдала займаецца ён жывапісам, рысункам і мяшанымі мастацкімі тэхнікамі. Праз мастацтва выяўляе свае пачуцці і мары, паказвае сваё бачанне акружаючага яго свету, людзей і розных здарэнняў. Карціны Барташа цудоўныя, далікатныя і вельмі каляровыя. У яго на працягу гадоў малявання склаўся ўласны стыль працы, — праінфармавала кіраўнік чытальні Ала Грыц.

Барташ Шпаковіч свае мастацкія працы прэзентаваў на выставах і конкурсных аглядах. Адным з самых вялікіх яго поспехаў было трэцяе месца на Агульнапольскім мастацкім конкурсе «Вясёлка», арганізаваным Акадэміяй выяўленчага мастацтва ў Варшаве. Атрымліваў Барташ таксама ўзнагароды ў катэгорыі творцаў-інвалідаў на аглядах непрафесійнага мастацтва ў Гайнаўцы. Перамогі ў конкурсах і выставы дапамагаюць Барташу павысіць адчуванне ўласнай вартасці і дзякуючы ім перападолае ён нясмеласць і змагаецца з хваробай. На выставе ў бібліятэцы экспануюцца шматтэматычныя каляровыя працы Барташа Шпаковіча і арыгінальныя структурныя жывапіс Багуславы Чаркоўскай.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# А ўсё пачалося 20 гадоў таму...

Цяжка паверыць, што гэта было дваццаць гадоў таму, але час мае свае правы ды непазбежна бяжыць. Гэтаксама чалавечае жыццё няўмольна прамінае, быццам некалькі дзён. Святкуючы Каляды на вёсцы ў бацькоў, меў я нагоду парадкаваць хату ды выпадкова ў старой, даўно забытай шуфлядзе ў пісьмовым стале натрапіў на сапраўдныя скарбы. Я нават не спадзяваўся, што старая шуфляда перанясе мяне ў часы майго дзяцінства. У старой, тоўстай папцы знайшоў я свой дзённік 1996-1999 гадоў — запіс хвілін, часта на скорую руку, з многімі арфаграфічнымі памылкамі. Прачытаў я і падумаў як змяніўся мой спосаб думання ды ўспрымання свету. Тады ж я меў столькі гадоў, колькі сённяшнія гайнаўскія ці бельскія белліцэісты. Ліцэістаў можа здзіўляць тое, што ў тыя даінтэрнэтны час, без камп'ютараў і мабільных тэлефонаў, мы былі вельмі шчаслівыя. Шмат часу я тады праводзіў з сябрам-аднавяскоўцам Грышкам, з якім мы многа каталіся на веласіпедах, слухалі музыку з аўдыёкасет, радыёперадачы ды гралі ў шашкі ды скраблі. Хаця мінула раптам 15 гадоў, то шмат змянілася ў грамадстве. Таксама часцей чым зараз людзі наведвалі адзін аднаго. У шуфлядзе знайшоў я пяць нумароў сваёй газеткі «Званок», якую я сам пісаў, рэдагаваў ды размалёўваў пяром у 1996-2000 гадах. Шмат было ў газетцы арфаграфічных памылак, але самае важнае — захаваўся ў ёй дух успамінаў.



У газетцы ў асноўным пісаў я пра мерапрыемствы ды аўтарскія сустрэчы, якія ладзіліся ў маёй школе — у бельскім белліцэі. У першым нумары «Званка» я адзначыў, што напачатку верасня 1996 года адбыўся канцэрт гурту «Вядро» ў Бельскім доме культуры. У складзе гурту быў Лукаш Сцепанюк (зараз журналіст Радыё Рацыя) ды Тамаш Лукашук, у якога я ўзяў інтэрв'ю. Дарэчы, Тамаш Лукашук выводзіцца з музыкальнай сям'і, а яго бацька, Сяргей Лукашук — шматгадовы дырэктар Бельскага дома культуры, музыкант і мастацкі кіраўнік «Маланкі». Дарэчы, спадар Сяргей вучыў мяне музыцы ды перапісаў мне касету гурту «Дзявочыя ноткі», пра якую я таксама пісаў у сваёй газетцы. У «Званку» пісаў я таксама пра фестываль «Бардаўская восень». Ёсць таксама справаздача з аўтарскай сустрэчы паэтаў Надзеі Артымовіч і Юрыя Баены, а таксама адказы на пытанні, якія я ставіў паэтам у час сустрэч.

У газетцы адзначаны Сустрэчы «Зоркі» ў Старыне. У рубрыцы «Чудачок» змешчаны беларускія анекдоты, якія мне падаслаў белліцэйскі сябра Міхась. Ёсць таксама польска-беларуская крыжаванка. У апошнім нумары з 2000 года апублікаваны ўспаміны маёй бабулі Марыі Самасюк-Буйнюк на тэму велікодных абрадаў, справаздача з сустрэчы з віцэ-прэм'ерам Уладзімежам Цімашэвічам ды паслом Сейма Яўгенам Чыквіным. Шмат адбывалася тады падзей у бельскім белліцэі, якія я падрабязна апісваў. З заканчэннем вучобы ў белліцэі я перастаў выдаваць «Званок». У студэнцкі час я прабаваў стварыць рэдакцыю студэнцкай газеты, але, на жаль, не атрымалася. Гэта былі мае першыя журналісцкія спробы.

А на самым дне шуфляды самы вялікі скарб — архіўны нумар «Нівы» ад снежня 1994 года! У ім Ганна Кандрацюк-Свярубская піша пра пачатковую школу ў Малінніках. Ёсць кароткае інтэрв'ю з дырэктар школы Вольгай Стэльмасяк, якая сказала, што самыя здольныя дзеці ў школе гэта вучні родам з Тапчыкалаў ды Пашкоўшчыны. Ёсць гонар маёй школы — Аня Грайко — тады васьмігадовая дзяўчынка, а зараз 28-гадовая жонка ды маці, выпускніца ХАТ у Варшаве. Надрукаваны таксама здымак майго класа. З кароценькага інтэрв'ю вынікае, што я ў траўні 1993 года напісаў першы верш, а ў сакавіку 1994 года дэбютаваў у «Зорцы». Аж цяжка паверыць, што гэта было 20 гадоў таму! Як праляцеў той час. А здаецца, што так нядаўна вучыўся я ў пачатковай школе, потым закончыў белліцэй, а зусім нядаўна быў студэнтам. Знайшоў я яшчэ рукапіс майго апавядання «Салдацкі ножык» ды нумар «Нівы» ад 2006 года, у якім Ірэна Ігнатовіч — бібліятэкарка гайнаўскага ліцэя апісвае ўражанні свае ды вучняў школы. Што з гэтага вынікае? А менавіта тое, што варта пісаць, варта спісваць успаміны, вершы, тэксты песень ды збіраць, бо за 20-30 гадоў будзе што паказаць сваім дзеткам. Гэта ў слове найбольш зачараваны час, які мы адлюстравалі ў хвіліну пісання. Таму я пад кожным вершам ці тэкстам песні стаўлю дакладную дату, нават гадзіну і месца або ўмовы напісання твора. Сапраўды, варта пісаць, а каб пісаць, трэба многа чытаць ды шмат раздумваць, бо думкі ды мары з часам мяняюцца, а даўно запісаныя і сёння адкрытыя могуць стаць перспектывай, з якой глядзім з сённяшняга часу на мінулае.

**Юрка БУЙНЮК**

## Прыгожыя вясковыя святліцы

У Нараўчанскай гміне праяўляюць вялікі клопат пра вясковыя святліцы. Гэтыя невялікія дамы культуры маюць прыгожыя і прасторныя залы, столікі, крэслы і іншае клубнае абсталяванне. Некаторыя святліцы маюць тэлевізары, вельмі неабходныя зараз, у зімні перыяд, камінкі, а таксама малыя кухні і кухонную пасуду. Пяць святліц мае туалеты.

Асабліва прыгожыя святліцы ў Нараўцы, Старым Ляўкове, Семяноўцы, Міхнаўцы, Альхоўцы і Плянце. Добрыя ўмовы маюць яны таксама ў Гушчэвіне, Міклашэве, Ахрымах, Баб'яй Гары і Старым Масеве. Новую мэблю атрымаюць святліцы ў Ахрымах і ў Баб'яй Гары. Сёлета будуць рамантаваць клубныя памяшканні ў Міклашэве (тут прасторныя залы і многа акон) і ў Тарнаполі.

Актыўную дзейнасць вядуць святліцы ў Нараўцы, Старым Ляўкове, Міхнаўцы і ў Заблотчыне. У канцы мінулага года аўтарскія сустрэчы з мясцовымі беларускімі пісьменнікамі ладзілі святліцы ў Міхнаўцы, Плянце, Баб'яй Гары, Гушчэвіне і Міклашэве. Пра іх пісалі мы ў «Ніве». Усе былі ўдалыя. Было зацікаўленне вяскоўцаў. Будуць наступныя. Неўзабаве паэты сустрэнуцца з жыхарамі Нараўкі, Баб'яй Гары, Альхоўкі і Заблотчыны. Маем паэта і ў Альхоўцы — Мікалая Варанецкага.

Варта дадаць, што тутэйшым вясковым паэтам з Лешукоў, Міхнаўкі, Новага Ляўкова, Семяноўкі ды з Семенякоўшчыны (Мядзвядзёў) у арганізацыйных справах найбольш дапамагаюць войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч і новая дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рээнт. За гэта літаратары (іх тут шэсць) ім сардэчна дзякуюць.

**(яц)**

## Найважнейшыя інвестыцыі

У 2014 годзе ў Беластоку найдаражэйшай інвестыцыяй будзе заканчэнне перабудовы вуліцы ген. Клеберга. Гэта апошні адрэзак генеральскай трасы, або гарадской акружной дарогі. Плануюць закончыць яе ў кастрычніку гэтага года. Будзе яна каштаваць 47 мільёнаў злотых.

Ужо ў чэрвені гэтага года будзе гатовая маставая вуліцы Цыялкоўскага. Кошт гэтай інвестыцыі — 16 мільёнаў злотых.

Восенню здадуць у карыстанне дзве аднаўленыя вуліцы Канстытуцыі 3 Мая і Вярбовую. На перабудову іх спатрэбіцца 14 мільёнаў злотых, роўна па сем мільёнаў на кожную з іх.

У маі гэтага года будзе выпрастана вуліца Бялуўны на адрэзку ад вуліцы Мальмеда да вуліцы Новы Свет. На яе перабудову запланавалі 1,4 млн. зл.

У маі будуць закончаны працы на доўгай вуліцы 42 Пяхотнага палка за два мільёны злотых.

У красавіку гэтага года будзе закончана пашырэнне маставой да чатырох палос на вуліцы Юравецкай на адрэзку ад вуліцы Сянкевіча да вуліцы Цёплай.

За два мільёны злотых будуць адрамантаваныя вуліцы Травястая, Дальёвая, Доўгая, Адукацыйная і Сервітутная.

Паўтара мільёна злотых гарадскія ўлады прызначылі на прадаўжэнне вуліцы Сітарскай.

Апрача гэтых пачынанняў дырэктар Праўлення дарог і гарадскіх інвестыцый Януш Астроўскі плануе пашырыць фрагмент вуліцы Берлінга ад вуліцы Фабрычны Антонюк да вуліцы св. Казіміра.

Сёлета на беластоцкія вуліцы магістрат запланаваў 135 мільёнаў злотых.

**(яц)**

Polskie Radio Białystok

Люты на Падляшшы — традыцыйна час беларускай песні. Сёлета, як кожны год, пра Агульнапольскі фестываль „Беларуская песня — 2014" будзем інфармаваць у перадачах „Пад знакам Пагоні" ў эфіры Польскага Радыё Беласток.

Паколькі ў гэты час у прадметных конкурсах па беларускай мове змагаюцца вучні школ нашага рэгіёна, гэтая тэма таксама паявіцца ў нашых перадачах.

Не абыдзецца і без бягучых інфармацый пра важныя для беларусаў Беласточчыны падзеі, будзем таксама закранаць гістарычную ды публіцыстычную тэматыку.

Перадачы „Пад знакам Пагоні" гучаць кожны дзень у эфіры Радыё Беласток:

панядзелак — чацвер 18:45
пятніца 18:30
субота 18:30
нядзеля 8:30

## Паслясвяточныя разважанні

Студзень у Праваслаўнай царкве адзначаўся шматлікімі святамі. Адным з важнейшых з'явілася Божае Нараджэнне. Затым Шчодры вечар (Гагатуха), Новы год, Вадохрышча... У мінулым народ прытрымліваўся хрысціянскіх традыцыяй. Звычкі і абрады перадаваліся з пакалення ў пакаленне. З цывілізацыйным прагрэсам традыцыя пачала знікаць. На Раждждаство Хрыстова зараз прыкмячаецца менш калядніцаў. Калісьці, памятаю, працьма іх хадзіла, і сваіх, і з чужых вёсак. На Гагатуху дзяўчаты варажылі. Кавалерка прыдумоўвала фокусы. Памятаю, як аднаму гаспадару на дах санкі зацягнулі. Іншаму комін шклом зверху закрылі. Модным было здымаць брамкі.

У гэтым годзе, напрыклад, навагодні баль, „Сыльвэстра", значыцца, адзначалі ў Чаромсе адно 31 снежня ў ГОКу і перад сядзібай гміны. На Шчодры вечар царыла цішыня. Не ўзляталі ў неба феерверкі. Не было чуваць, каб моладзь рабіла фокусы. Быццам бы паўміралі праваслаўныя. А шкада, што знікаюць традыцыя і народныя звычкі, бо разам з гэтым памірае наша тоеснасць, пашана да даўніны. Знікае мясцовая гаворка. Дзеці змалку прывучваюцца размаўляць на польскай мове. Мо таму беларускай мове ў Чаромсе навучаецца семнаццаць вучняў (на агульны лік 226). І гэтай сумнай рэфлексіяй завяршаю свае святочныя разважанні.

## Дзень бабулі і дзядулі

25 студзеня ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылася сустрэча сеніёраў з нагоды Дня бабулі і дзядулі. Арганізатарам мерапрыемства быў мясцовы цэнтр культуры разам з аддзяленнем Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў. У сустрэчы ўдзельнічалі войт Юры Шыкула, старшыня раённага аддзялення пенсіянерскай арганізацыі Раман Туркевіч, ды шматлікае кола сеніёраў. З адмысловымі віншаваннямі для бабулек і дзядуляў з наго-



*Вясёлыя музыканты (злева направа): Пётрэк, Аська, Марцін, ззаду Данель*

ды іхняга свята выступіў кіраўнік самаўрада затым адмысловы верш, прысвечаны ганаровым сеніёрам, зачытаў Раман Туркевіч. Не ўдзельнічалі школьнікі з мастацкай часткай. Паўплывалі на гэта абмежаваныя фінансавыя сродкі, як і халоднае ветранае надвор'е. Госці задаволіліся сардэчнай, сяброўскай атмасферай, якая царыла ў час застолля, супольнымі песнямі і папулярнай музыкай маладзёжнага інструментальна-вакальнага гурту „Ве-Нарру". А музыканты ігралі не ленаваўшыся наперамен беларускія, украінскія ды польскія гіты — сучасныя, як і з аддаленай мінуўшчыны. Пра пачастунак задбалі самі ўдзельнікі, прыносячы „уласны кошычак". Арганізатары забяспечылі сабраных напіткамі, ласункамі, пячэннем і фруктамі. Дзякуючы супольнаму зразуменню арганізатараў ды гасцей усяго было ўдосталь.

**(ус)**

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Мода на сямейнае чытанне

Ці ў многіх сем'ях, паважаныя сябры, сёння практыкуюць сямейнае чытанне кніг? — пытае ва ўступным слове да зборніка вершаў „Сямейная чытанка" вядомы беларускі літаратуравед і журналіст Сяргей Чыгрын. І, адразу, ён сумняваецца. Тлумачыць, што зараз на чытанне кніг няма часу, а таксама жадання... Усё гэта — справа нядбайнасці. Нярварта аднак наракаць. Лепш узяць у рукі вершы Алеся Клышкі „Сямейная чытанка". Вершы ў кніжцы маюць выхаваўчы аспект. Знойдзем там вершаваныя прымаўкі і прыказкі, народны жанр, які абажаюць дзеці ў цэлым свеце. Добрая загадка — гэта ключык, якім зможам падкруціць уяўленне, раскрыць творчыя сілы. І гэта не так, што ў сямейным чытанні абдараваныя адны дзеці. Не, зусім наадварот, карыстаюць таксама дарослыя. Супольная чытанка — гэта сямейная інвестыцыя! Гэта таксама надзея на лепшую якасць жыцця!

Алесь Клышка мае на гэта свой, замацаваны ў беларускай літаратурнай традыцыі, каментар:

*Загляне сонца і ў наша аконца.*
Гаспадар убачыць сонца,
Калі вымые аконца.
Калі доўга яго мыць —
Зорным неба заблішчыць.




Ну вось! А ці пазналі вы прыказку, якая стала сінонімам беларускага адраджэння ў пачатку ХХ стагоддзя? Пра гэта павінны ведаць нашыя лаўрэаты прадметных конкурсаў. Ды і не толькі! Шмат падобных загваздак, загадак і павучальных вершыкаў знойдзеце ў „Сямейнай чытанцы". Кніжачку можна яшчэ выйграць у зорчыных конкурсах. Мы заахвочваем вас не адно пісаць вершы на конкурс — чытайце, даражэнькія, вершы іншых аўтараў!

А найлепш — разам з дарослымі.

**ЗОРКА**

# Вершы Віктара Шведа

## Ветэрынарны лекар

Лекар адказаў Валодзю:
— Без патрэбы ты прыходзіш.
Паўтару абавязкова —
Ты як конь цяпер здаровы!

Цешуся, хтосьць з нашай школы
Стаў здаровым жывёлай.
Аб здароўі добрым марыў,
Дзякую ветэрынару!

## Аптыміст

Настаўнік вучня пытае:
— Ці штосьці ты паўтараеш
Перад экзаменам нашым,
Важным на цэлым Падляшшы?

— Я паўтараю, вядома,
Часам ужо аж да стомы.
— Аб чым у паўторах ты судзіш?
— Добра будзе! Добра будзе!



Дзеткі з беларускага садка № 14 у Беластоку

# МІШКА

Адам СЯМЕНЧЫК

Міхась прагна выпіў увесь свой сок з бутэлькі. Потым падняў яе над галавой і паглядзеў знізу пад святло. Ён хацеў праверыць, ці не засталося там яшчэ трошкі соку. Сонца пераліваласа ў донцы бутэлькі, ствараючы ўспышкі ва ўсіх колерах вясёлкі. Тады хлопчык пачуў самую выдатную музыку, далікатныя гукі — «плюм-плюм, плюм-плюм, плюм-плюм». А потым прагучаў знаёмы Міхасю дарагі галасок. Даўно не чуты, за якім так засумаваў.

— Міхась, гэта я, твой Мішка.

— Мішка? Мішка! Мішка, ты дзе?

— Каля цябе. Памятаеш, як ты страціў мяне аднойчы раніцай?

— Так! — сумна сказаў Міхась. — Я сумаваў па табе.

— Я таксама сумаваў па табе, — прагучаў голас мядзведзіка. — Але я ўжо ёсць, ды трошкі па-іншаму. Зноў жа мы можам быць разам.

— Я чую цябе, але я не магу цябе ўбачыць, — паскардзіўся Міхась.

— Ты зрабіўся, верагодна, вельмі маленькім? Ці, можа быць, гуляеш у хованкі са мной?

Галасок захахатаў: — Вядома! Адзін, два, тры, хавайся ты! Лічы далей да дзесяці!

Міхась закрыў вочы рукамі.

— Чатыры, пяць, шэсць...

Хацелася яму паглядзець праз пальцы, куды схаваўся Мішка. Але тады падумаў, што нельга падманваць, нават калі ніхто не бачыць. Таму заплюшчыў вочы. Пасля ліку дзесяць адкрыў вочы і на імгненне не абвыкаў да святла. Пасля таго, як усё стала выразным, зноў пачаў шукаць Мішку. Зазірнуў за дрэва, якое расло побач, але Мішкі там не было.

— Можа быць, я яшчэ добра не бачу? — падумаў.

Праз некаторы час пачуў гул дзяцей з двара. Пабег туды ў надзеі, што зараз жа знойдзе Мішку. Замест гэтага ўбачыў Маню, Мосю, Піню і Пецьку.

— Прывітанне, прывітанне! — пачуў.

Міхась спыніўся і паглядзеў вакол. Потым уздыхнуў і сказаў :

— Прывітанне, я шукаю свайго Мішку, які дзесьці тут схаваўся.

— Што? Твайго Мішку? — здзівіліся дзеці. — Толькі мы тут гуляем. Але мы можам дапамагчы табе знайсці яго. Як ён выглядае?

Міхась шчасліва кіўнуў і сказаў:

— Вы яго ведаеце, гэта мой любімы Мішка. Ён заўсёды быў са мной. Аднойчы я яго страціў, і сёння раптам я пачуў яго голас. Ён паклікаў мяне, калі я паглядзеў на неба праз донца бутэлькі з-пад соку.

— Ну, гэта крыху дзіўна, — разважыла Маня. — Адкуль ты ведаеш, што гэта ён? Бо ты ж яго не бачыў.

— Гэта мой сябра. Яго неабавязкова бачыць, каб пераканацца, што ён разам з табой, — сказаў Міхась і дадаў панура: — Я маю на ўвазе, што ён заўсёды быў са мной, але я яго страціў, і цяпер думаю, што ён, здаецца, зноў тут.

— Так, гэта вельмі цікава, — прамармытала Маня, і гучна сказала: — Я толькі што ўспомніла, што таксама нядаўна пачула голас твайго Мішкі. Ён гаварыў са мной, але я не магла ўбачыць яго, хоць добра азіралася.

— Ты адказала яму? — усхвалявана спытаўся Міхась.

— Вядома!

— Вось ты размаўляла з маім Мішкам! І калі гэта было?

— У той час, калі з Пінем гулялі мы паветраным змеем, які мы зрабілі з паперы, планак і вяроўкі, — коратка падумаўшы, адказала Маня.

— І што сказаў мой Мішка? — распытваў Міхась.

Вучні з Бабік з візітам ў рэдакцыі „Нівы”

Хлопцы з Міхалова прыехалі на падвядзенне вынікаў літаратурнага конкрсу разам з мамай.

Маня пацiснула плячыма. — «Я рады быць тут зноў». Вось і ўсё. А я сказала: «Дзе ты, Мішка? Я пазнала твой голас, ты мядзведзік Міхася. Але я не магу ўбачыць цябе». А твой Мішка сказаў: «Вось ты да мяне дакранаешся». Ён сцвярджаў, што лунае разам з паветраным змеем і вецер дазваляе яму гучна гаварыць.

— І гэта ўсё? — спытаўся Міхась, расчараваны.

Маня пахітала галавой.

— Дадаў яшчэ: «Не шукай мяне ў маёй старой форме плюшавага мішкі. Важна толькі, што можам працягваць гуляць разам».

— Са мной таксама размаўляў твой Мішка, — ціха сказаў Пецька. — Мы гулялі з Мосей шклянымі шарыкамі, — распавядаў. — Мы сядзелі на лузе і аглядалі іх, каб імі мяняцца. Я падняў адзін з маіх новых шарыкаў, паглядзеў праз яго на сонца і крыкнуў: «Ах!» І адразу ж схаваў яго ў кішэню. Мося хацела даведацца, што я ўбачыў у гэтым шарыку. І я тады пачуў голас твайго Мішкі. «Давайце гуляць шарыкамі», сказаў ён. «Мішка, ты дзе?» спытаўся я. А ён сцвярджаў, што толькі што я ўбачыў яго ў бляску шкла.

— І што? Убачыў? — ускіпеў Міхась.

— Мне здавалася, што там бліснула іскарка, — прызнаўся Пецька, — але ўсё-такі я спытаў, дзе я мог бы яго сапраўды ўбачыць. А ён адказаў: «У тваіх новых шарыках».

— І менавіта таму нам больш не давядзецца шукаць яго ў двары, — дадала Мося. — Здаецца, ён усюды патроху.

— Дык што, мой Мішка тут? — шчасліва ўздыхнуў Міхась, а затым усклікнуў: — Мішка, дзе ты, калі цябе чуваць, калі мы гуляем паветраным змеем або шарыкамі? І чаму ты таксама ў бутэльцы з-пад соку?

Дзеці прыслухаліся... І тады зноў пачулі голас нябачнага плюшавага мядзведзіка, які распавёў, што з ім здарылася. Гэта была цікавая і дзіўная гісторыя.

— Міхась, калі я выпаў з твайго заплечніка, падняла мяне нейкая вялікая дзяўчынка. Яна падумала, што такі паліняльі, аднавокі плюшавы мішка з адарваным вухам цяпер нікому не будзе патрэбны, таму яна занесла мяне ў сметнік. Тую папяровую шапачку, якую ты мне зрабіў, кінула ў сіні кантэйнер для перапрацоўкі паперы, а маё шкляное сэрцайка — у зялёны кантэйнер на шкляную тару. Яна ведала, што некаторыя з маіх частак выкарыстоўваюцца паўторна, таму называюць іх «другаснай сыравінай». Гэта так, як быццам я атрымаў другое жыццё! Мая шапачка пайшла ў вытворчасць паперы, з якой вы зрабілі паветранага змея. Гэта проста фантастыка, так лунаць пад небам!

— А чаму я чую цябе ў шкляным шарыку? — распытваў Пецька.

— Таму што маё сэрцайка са шкла, якое было налепленае на маім футры, таксама было апрацавана, — растлумачыў голас Мішкі. — З расплаўленага шкла вырабляюць шарыкі, бутэлькі і яшчэ шмат іншых рэчаў. І так па-новаму я магу зноў быць з вамі.

— Ах, Мішка, гэта амаль так, быццам ты ніколі не быў страчаны! — усклікнулі дзеці.

Нябачны мядзведзік весела зарагатаў:

— Вось у чым сакрэт гэтага складанага слова з літарай «п»!..

*(перапрацоўка)*

**Пераклад Міры Лукшы**

# Увага, конкурс!!!

## Загадкі з роднай хаткі (№ 5-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 23 лютага, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

**Днём акно разбіта,**
**а за ноч устаўлена.**
**(л..)**

**2.**

**Ляцяць птушкі без крыл,**
**а садзяцца без ног.**
**(с.......)**

**3.**

**На дварэ гарою,**
**а ў хаце вадою.**
**(с...)**

**4.**

**Шмат на ёй іголак,**
**але ўсе без вушак**
**(і.....)**

**Адказ на конкурс-загадку № 4-14: мядзведзь, зубры. Узнагароду - CD з беларускімі анімацыямі — выйграла Дар’я Кулік з Орлі. Віншуем!**

***Наталля ВАСЬКО,***
***Тарнопаль,Гімназія ў Нараўцы***

# Вада

Вада ...
Гэта тваё жыццё...
Ці ты без яе пражыў бы?
Ці цяпер яна,
Для цябе важная?
Ці цяпер ты,
Аб ёй думаеш?
Ці цяпер ты,
Хацеў бы яе больш?
Ну скажы,
Толькі праўду...
Гэта сіняе жыццё...
Ці ты любіш сіні колер?

# Польска-беларуская крыжаванка № 6

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 2:**

Тыгр, кропка, лоб, ар, паша, шакалад, шарон, ты, конь, Ян, ухіл, скура. Тэма, грашакі, арол, закон, рань, паток, плады, кош, яр, абарона. Узнагароды, **аўтаручкі,** выйгралі **Юлія Жукевіч, Караліна Шчасновіч** з Бабікаў, **Інэз Дмітрук** з Орлі, **Магда Рошчанка, Кацярына Лаўрашук, Юлія Скарбіловіч** з Бельска-Падляшскага, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Krowa | Kadry | | Woda / Ramka | | Język / O! | | | | |
| Rodowód | | | | | | | Związek / Zadanie | Zwierzęta / Lira | |
| | | | | | | | La / Mag | | |
| Dama | | | | | Amir | | | | |
| Żyto | | | | | Czary | | | | |
| | | | | Waga | | | | | |




Зінаіда КАНДРАЦЮК



## Праўда

Адзінае неба для ўсіх,
Адзінае сонца над намі.
Святая святыня ў небе,
Святая Тройца,
Цэнтр Божага дзеяння
У нябёсах і на зямлі.
Магутнасць, мудрасць, любоў стварыла
Усё і ўсіх
І слова аб'явіла:
Няма святога месца на зямлі.
Кім ёсць чалавек?
Якая ў яго сіла?
Нічога вечнага не зрабіла.
Нараджаюцца — пажывуць,
А потым умiраюць.
Разумны і багаты,
Харошы і гарбаты.
Усе саграшылі,
Смерць заслужылі.

## Радаслаў

Прыйдзі, прыйдзі ты, унучачку,
Наведаць сваю бабулечку.
Я табе выбрала імя Радаслаў.
Будзь здаровы і разумны,
Каб мама і я былі з цябе думны.
Як скончыш школу, вывучышся,
Атрымаеш работу —
Працуй сумленна.
Каб быў шчаслівы і багаты,
Пазнаў дзяўчыну — кахаў і шанаваў,
Яна цябе таксама каб любіла і кахала,
Так як люблю цябе я і мама твая.
Жадаю табе, Радзя, добрых цесця і цешчы,
Каб заўжды ў патрэбе памагалі.
Калі прыйдзе час — ажэнішся,
Каб мелі вы дзяцей — сыноў і дачок,
Найпрыгажэйшых у мястэчку.
Радку, будзь заўжды шчаслівы
Са сваёй радзінай.
Слаў Пана Бога заўсёды,
Мой ты мілы Радаслаў.
Будзь слоўны, слаўны і справядлівы,
А жыць будзеш доўга, доўга.

## Вінаватыя

Прадпрыемствы вырабу алкаголю,
Прадукцыі тытуню
Атручваюць народы.
Няма ім ніякай перашкоды.
Дзяржавы падаюць,
Разумных людзей не хапае.
Хто гэтую атруту выробляе?
Не радзяць ужо паўстрымаць.
Нягодныя жыцця людзі паскудныя,
Адзін другому тлумачыць,
Няма каму слухаць.
А што да дзела выканання
Сувярэннай працы —
Таўпа тулачаў.
Голад, хваробы дарослых і дзяцей.
Многа дахтароў — няма за што лячыць,
Чэргі на шмат месяцаў.
Няма шанцу вылечыць алкаголікаў.
Хвароба не можа чакаць.
Вазьмі жыцці без дапамогі.
«Памагай» — варта памагаць
І людзей ратаваць.
Прадпрыемствы багацеюць,
Няхай яны памагаюць.
Што ж можа памагчы слабы і бедны!
Адлічваюць падаткі, не хапае ім
На жыццё, званае салодкім.
Тыя хто ў жондзе працуе,
Што і раз гайку пакручвае.
Хоча годна жыць, бо ён пануе,
А людзей не шануе.
Хаця ходзіць у касцёл,
Іконы і крыж цалуе,
Дае грошы на будову храма,
Няма горшага хама.
За ўсякае зло на свеце
Будзе вінаваты сатана і яго дзеці.
Хто справядлівы і мондры,
Няхай падумае, як мае жондзіць.
Як такіх забракуе,
Народ узбунтуе.
Хто сатане служыць і яго слухае,
Разам з ім месца ў пекле яго чакае.
Было то ўжо раз,
А будзе яшчэ многа раз.
Пажыла, многа чаго знаю.
Людзі, будзьце здаровы — вас асцерагаю!

Ірэна ЛУКША



## Семяноўка

Семяноўка мая родная вёска.
Вакол лугі, палеткі ды лясы.
Вадасховішча быццам возера.
Тут лодкі і матароўкі ўбачыш,
Безліч турыстаў і рыбакоў.
Плаваюць лебедзі, лятаюць крачкі.
Паветра тут чыстае.
Вечарам да сну цвыркун іграе,
Рана певень будзіць.

## Царква

Спрадвеку царква ў Семяноўцы стаіць.
Многа перажыла навальніц.
Ні адна куля яе не трапіла.
Гэта дзяржава непераможная.
Будзе стаяць да канца свету.
Бог і святы Георгій яе сцерагуць.

## Школа

За царквой школа стаіць.
Тут вучылася безліч дзяцей.
За школай спортпляцоўка была.
Вакол яе тапалі стаялі.
Цяпер вучнёўскага гоману няма.
Сюды турысты прыязджаюць.
За школай пляц гульняў для дзяцей.
Таполяў ужо не ўбачыш.

## Клуб

За школай клуб стаіць.
Раней была святліца.
Часта тут былі танцы.
Цяпер дзеці і моладзь
Прабываюць тут.
Танцаў ніхто не ладзіць.
Толькі памінкі аб памёршых.

## Юр'я і Пакрова

Юр'я і Пакрова — прыхадскія святы
Сямяне святкуюць пяцьдзесят гадоў.
Раней дарослых і дзяцей было багата,
Цяпер і паловы няма.
Дзеці цукернікаў чакалі як Бога,
Прагна лізалі пеўнікі, грушкі ды макі.
Куплялі свісцёлкі, ляльки і пярсцёнкі.
Цяпер вялікага ўторгу прадаўцам няма.
Старэе і вымірае прыход.
Бацюшка Мікола таксама старэнькі.

Аліна ЛЕАНЕЎСКАЯ



## Дзяўчынка

Маю я дзяўчынку,
Цудоўную Мартынку.
Задумала быць доктарам звяроў,
Памагаць ім пазбывацца хвароб.
Паехала вучыцца ў Варшаву,
Але ніколі не забыла пра сваю мову.
Усім знаёмым гаворыць,
Скуль яна паходзіць.
Цяпер штудзіруе ў Вроцлаве,
І там таксама добра яе знаюць.
Каляжанкам заўсёды тлумачыць,
Што ўсе могуць жыць іначай.
Часта пра праваслаўе пытаюць,
Ці нашы людзі Бога знаюць.
Яна ўсё ім раскажа
І царкву ў Семяноўцы пакажа.

## Хлопчык

Мой хлопчык маленькі,
Хоць чатырохгадовы, а як старэнькі.
Пахаваў бацьку,
Астаўся саменькі.
Рос хлопчык здаровы,
Займаўся дровамі,
Каб зімою ў хатцы
Было цяпло і сабацы.
Вырас хлопчык мудры і вялікі.
Паехаў на заробкі ў свет далёкі.
Ды думаў пра хату,
І пакінуў работу.
Вярнуўся да вёскі,
Зняць маме троскі.
Мой хлопчык маленькі,
Заўжды даражэнькі.

## Мама

Іду я праз лясную паляну
І так думаю пра маму.
Жыла з намі ў вёсцы,
У добрым і ў тросцы.
Цяпер у месце пануе
І ні крыху не гаруе.
Выгоды ёй не бракуе,
І здароўе скуткуе.
Суседкі ў вёсцы сядзяць на лаўках,
Гавораць пра маю маму ў мілых слоўках.
Зінка добра зрабіла, што ўсё пакінула.
Тут з намі можа і згінула б.

# Крыху царскай генеалогіі

**Беласточчына яшчэ лічыцца памежжам, хаця, здаецца, працэсы глабалізацыі, у нашым выпадку лакальнай, кіруюцца ў напрамку размывання розных нашых граніц і падмывання нашых крэпасцей. Аднак памежжа гэта не толькі мяжа, як цяпер модна сцвярджаецца, але і зона ўзаемнага пранікання размежаваных, не толькі грамадскіх, суб'ектаў. Пранікання між Усходам і Захадам, часам даволі бурнага. А як калісь бывала?**

Пасярэдзіне нашага цяперашняга Падляшскага ваяводства распаложаны Монькаўскі павет. Калісь, каля паўтысячы гадоў таму, невядома толькі дакладна ў якім гістарычным адрэзку, быў там жа Ганёндзкі павет. У кніжцы „Dzieje Goniądza" з 1997 года ёсць такі сказ: „Jeszcze w 1519 r. w akcie nadawczym dla kościoła w Dobrzyniewie Mikołaj Radziwiłł pisał, że kościół dobrzyniewski znajdował się we wsi Dobrzyniewo w powiecie goniądzkim diecezji wileńskiej"; павет той быў даволі вялікі. Мікалай Мікалаевіч Радзівіл быў у той час віленскім ваяводам, а ў 1505-1510 гг. быў ваяводам трокскім, а тагачаснае Трокскае ваяводства ахоплівала акурат цэлае Падляшша. Даведнік пра Вялікае Княства Літоўскае падае, што быў ён тут уласнікам Ганёндза, Райграда і Кнышына, трымаў таксама Бельскае староства. У 1518 годзе ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максімільяна І атрымаў ён быў тытул князя „на Ганязі і Мядзеле".

„Dzieje Goniądza": „Na sejmie w Brześciu Litewskim w lutym 1505 r. Aleksander Jagiellończyk nadał swemu marszałkowi dwornemu kniaziowi Michałowi Lwowiczowi Glińskiemu w zarząd starostwo bielskie oraz w dziedziczne posiadanie włości położone na Polesiu i Podlasiu: Turów, Rajgród i Goniądz. Kniaź, urodzony jako prawosławny, w czasie studiów włoskich przeszedł na katolicyzm. Niesłusznie oskarżony o zdradę, został pozbawiony swych wielkich majątków przez Zygmunta I, uszedł 14 maja 1508 r. do Moskwy".

Столькі кніжка, якая вельмі сціпла згадвае толькі пра аднаго з князёў Глінскіх. Але гісторыя гэтага роду намнога больш цікавая. Род выводзіцца, паводле легенды, ад татарскага хана Мамая, які загінуў у час Кулікаўскай бітвы ў 1380 годзе. Упершыню ў гістарычных крыніцах пад 1437 годам згадваецца прапраўнук Мамая, Барыс Глінскі. У Барысавага сына Льва было трох сыноў: Васіль, Іван і згаданы ўжо Міхал...

Князь Міхал Глінскі нарадзіўся каля 1470 года; адукацыю атрымаў на захадзе Еўропы; быў ён у міжчасе і дворнікам згаданага імператара Максімільяна. У 1490-х гадах вярнуўся ў ВКЛ, дзе стаў бадай найбольш даверaным супрацоўнікам караля Аляксандра Ягелончыка. Ягоная так прывілеяваная пазіцыя выклікала незадавальненне літоўскіх вяльможаў, якое пераўтварылася ў адкрытую варажнечу, асабліва з боку тагачаснага трокскага ваяводы Юрыя Заберазінскага. Глінскі намовіў караля забраць ад Юрыевага зяця горад Ліду і перадаць аднаму з ягоных сваякоў. Але Заберазінскі адклікаўся да літоўскіх вяльмож, якія прыпомнілі каралю, што ён, уваходзячы на трон, абяцаў у нікога з іх не адбіраць уладанняў. Лідскае староства вярнулася пад уладанне Юрыевага зяця, але Глінскі падбухтораў караля Аляксандра расправіцца з варожымі яму вяльможамі. Кароль такую расправу задумаў — запрасіў ён нявыгадных Глінскаму вяльможаў на з'езд у Берасце і ў тамашнім замку меў іх асудзіць на смяротнае пакаранне. Але каралеўскі канцлер Ласкі папярэдзіў літоўскіх паноў і тыя ў замак не падаліся. Кароль, аднак, пазбавіў Заберазінскага звання трокскага ваяводы, а ягонага зяця пасадзіў у турму. А Міхал Глінскі атрымаў Тураў і Ганёндз ды званне бельскага старасты...

У 1506 годзе памірае кароль Аляксандр і на трон уступае ягоны брат Жыгімонт І. У новага караля іншыя сімпатыі. Міхал Глінскі страціў не толькі давер у Жыгімонта — у дадатак кароль адабраў у яго



Касцёл у Ганёндзу




Горад Ганёндз — равеснік Маскоўскага царства



Цар Іван Грозны

Бельскае староства і званне каралеўскага маршалка. Гэта вельмі забалела ганарлівага князя і ён стаў шукаць сабе заступніцтва ў замежжы: у Венгрыі і ў Маскве. У 1507 годзе Міхал Глінскі намаўляе вялікага князя маскоўскага Васіля ІІІ ісці вайною на Вялікае Княства Літоўскае, якое ў той час да вайны не было гатовае. Маскоўскае войска накіравалася ў ВКЛ. Тут Глінскі помсціў сваім ворагам, забіваючы многіх з іх, у тым ліку і Заберазінскага. Маскоўскае войска захапіла м.інш. Мінск, Барысаў, Гомель і Крычаў. Глінскі хацеў яшчэ захапіць Кіеў, але на гэта не атрымаў падтрымкі ні ад маскоўскага вялікага князя, ні ад крымскага хана. Пазней маскоўскае войска захапіла Смаленск. Кароль Жыгімонт патрабаваў ад князя Васіля выдачы яму Глінскага, даказваючы, што апошні атруціў караля Аляксандра; гэтае патрабаванне асталося без адказу.

Міхал Глінскі разлічваў, што за заслугі перад маскоўскай дзяржавай атрымае званне смаленскага ваяводы, але князь Васіль не спяшаўся з гэтым. Тады Глінскі задумаў вярнуцца на службу ў ВКЛ. Кароль Жыгімонт згадзіўся на вяртанне вопытнага князя, але калі той уцякаў на літоўскі бок, яго злавілі маскоўскія ваякі і ён апынуўся ў турме. А там ён раскаяўся і вярнуўся ў праваслаўе. У 1526 годзе вялікі князь Васіль ажаніўся з пляменніцай Міхала Глінскага, дачкой ягонага брата Васіля, Галенай. Неўзабаве Міхал Глінскі выходзіць на волю і становіцца адным з найбольш давераных вялікага князя, цяпер маскоўскага. У 1533 годзе памірае вялікі князь маскоўскі Васіль. Міхал Глінскі зноў, так як і дваццаць сем гадоў раней, у разгары дворскіх інтрыг. Яго неўзабаве абвінавачваюць у спробе захопу ўлады ды атручэнні вялікага князя Васіля. У жніўні 1534 года Міхал Глінскі, ранейшы ўладальнік Ганёндза, Райграда і Бельскага староства, трапляе ў маскоўскую турму, а неўзабаве, у палове верасня, памірае.

Крышку інакш склаўся лёс Міхалавага брата, Васіля Львовіча, народжанага каля 1465 года. Ён таксама павышаўся ў службе ў караля Аляксандра — валодаў Васілішкамі, Слонімам, у 1505 годзе стаў берасцейскім старостам. Пазней далучыўся да дзеянняў свайго брата Міхала і таксама ўцёк у Маскву і там слых пра яго стаў чахнуць.

Васіль Глінскі быў жанаты з Аннай, якая выводзілася з роду сербскіх вяльможаў. У іх было траіх сыноў і тры дачкі; адна з іх, Галена, як ужо было згадана, выйшла замуж за вялікага князя маскоўскага Васіля ІІІ. У іх нарадзіліся два сыны Іван і Юрый. Першы з іх стаў пасля слаўным першым царом маскоўскім, атрымаўшы мянушку „Грозны".

Пасля смерці мужа Галена адхіліла ад кіравання дзяржавай назначаных пакойнікам апекуноў, у тым ліку і свайго дзядзьку Міхала, і сама стала кіраваць дзяржавай. Яна, выхаваная ў ВКЛ, праяўляла больш еўрапейскі чым маскоўскі менталітэт. Гэта выклікала незадавальненне не толькі маскоўскіх народных мас, але і тамашніх вяльможаў і яны, праўдападобна, атруцілі яе ў 1538 годзе. Будучаму цару Івану было тады восем гадоў і яго выхаваннем занялася бабуля Анна. Пра маскоўскае жыццё Анны Глінскай амаль не асталося ніякіх вестак, адно толькі захавалася апісанне аднаго эпізода...

У студзені 1547 года Іван быў каранаваны на маскоўскага цара, а тры месяцы пазней, у красавіку, у Маскве ўспыхнулі тры вялікія пажары. У іх выніку палова сталіцы згарэла і людзі сталі падазраваць падпалы. Ворагі Глінскіх сталі распускаць слыхі, што пажар выклікалі менавіта Глінскія сваімі чарамі. Гаварылі, што вядзьмакі вымалі чалавечыя сэрцы, мачылі іх у вадзе і пасля тою вадою крапілі вуліцы ад чаго і пайшлі пажары.

Цар загадаў правесці следства. Баяры прыехалі ў Крэмль, склікалі народ і спыталі, хто падпаліў Маскву. І ў адказ народ закрычаў: „Княгіня Анна вядзьмарыла, вымала чалавечыя сэрцы, мачыла іх у вадзе, а пазней ездзіла па горадзе і ўсё крапіла". Княгіня Анна сімвалізавала род Глінскіх, якія мелі ў Маскве дрэнную славу. Яны, як блізкія вялікаму князю людзі, бяскарна дазвалялі сабе і сваёй чэлядзі на многія злачынствы. У час гэтага зборышча тлум забіў сына Анны, Юрыя — дзядзьку цара Івана — і запатрабаваў таксама расправіць і з самой бабуляй новага цара; два дні пазней тлум з гэтым патрабаваннем з'явіўся перад царскім харомам. У адказ цар Іван Грозны загадаў схапіць завадатараў расправы і пакараў іх смяротным прыгаворам. Апошнія злякаліся і хваляванні ўцішыліся.

Пасля княгіні Анны астаўся ўсё ж такі нейкі след. Ейны ўнучак і выхаванец, цар Іван Грозны, стаў вялікім сербафілам. Ён менавіта шчодра ўспамагаў сербскія манастыры, у тым ліку і Хіландар на Афоне.

Гісторыя ўспамінае пра прысутнасць у Вялікім Княстве Літоўскім, у тым ліку і на Падляшшы ды Палессі, родавых продкаў слаўнага цара. Пра іх тут дзейнасць тая ж гісторыя, прынамсі перада мною, таямніча маўчыць. Хто ведае, можа менавіта тут фармаваліся парасткі менталітэту будучага слаўнага цара. Можна хіба лічыць, што і крыху нашага маем на слаўнутым Афоне.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Дзе дзеліся крынскія каляднікі?

Мабыць вам пашанцуе сустрэць у Крынках жменьку дзесяцігодкаў, бегаючых самапасам у святочны час з пазычанай панішчанай гвяздай. А нават калі і добра падрыхтаванымі ўвойдзеце з калядкай у хату, гаспадары паглядзяць на вас як на жабракоў. Цяжка паверыць, што калісь тут сапраўды калядавалі.

— Так, так, калядавалі, — пацвярджаюць народжаная ў Крынках васьмідзесяцішасцігадовая Ванда Хайноўская-Шыц і яе муж дзевяностатрохгадовы Браніслаў.

— Усё адбывалася ў нашай хаце, якая згарэла ў час Другой сусветнай вайны. Там збіраліся хлопцы і дзяўчаты, каб падрыхтаваць гвязду, а потым пасля абыходу хат супольна пабяседаваць. Правадыром быў мой пакойны брат, — расказвае спадарыня Ванда. — Хадзілі ад хаты да хаты, пытаючыся: „Panie gospodarzu, pani gospodynia, pozwólcie zaśpiewać, żeby wasz dom rozweselić, żeby nam i wam było wesoło". Гаспадары ім адказвалі: „Prosimy śpiewać i nasz dom rozweselić". Найчасцей выконвалі „Wśród nocnej ciszy" і „Dzisiaj w Betlejem". Да калядак падыгрывалі на губным гармоніку.

— Гвязды былі тады надта прыгожыя, з завадной ручкай і дванаццаццю рагамі, аздобленымі каляровымі хвастамі. Усярэдзіне нерухома стаяла выява Святой сям'і і свечка, — згадвае спадар Браніслаў.

Але не толькі гвязду бралі з сабой каляднікі. Па Крынках, а таксама па родным спадару Браніславу лясным Саснавіку, што ў Шудзялаўскай гміне, вандравалі з Казой, Ірадам, Смерцю, Анёлам і Чортам. У хату заходзілі яны найчасцей каля поўначы. „Diablisko chce chleba kawalisko" маўляў той апошні. „A smoły nie dosyć?" — цікавіўся бацька спадара Браніслава. Смерць з драўлянай касою звярталася да Ірада: „Królu Herodzie, za twe zbytki chodź do piekła, boś ty brzydki".


З беларускімі калядкамі выступілі дзеткі з „Заранкі"

— Часам тры-чатыры гурты каляднікаў прайшло праз хату. Адны яшчэ ўсярэдзіне, а другія, бывала, ужо стаяць пад дзвярамі, — дадае жанчына. — Каталіцкія каляднікі наведвалі таксама і праваслаўных. Калісь не было важнае праваслаўны ты, ці каталік. Адны другіх шанавалі і паважалі. Ой цешыліся каляднікі з падарункаў, хваліліся колькі зарабілі на канкрэтнай вуліцы ці вёсцы. Радасці не было канца, — успамінае спадарыня Ванда. — Плацілі ім найчасцей грашыма. Тады людзі бедавалі, не даядалі, таму заробленыя грошы каляднікі аддавалі бацькам на харчаванне.

Што сталася з крынскімі каляднікамі, куды яны дзеліся?

— Няма параўнання сённяшняй моладзі з колішняй, няма і пра што гаварыць, — тлумачыць спадарыня Ванда.

Апошні калядны вечар, арганізаваны мясцовым домам культуры, быў чарговым доказам сумнай рэчаіснасці. Невядома што больш спрычынілася да невялікай колькасці зацікаўленых: марознае надвор'е ці абыякавасць да ўласнай традыцыі?

З сусветнымі зімовымі мелодыямі запрэзентаваліся там дзеткі — падапечныя прафесіянальных музыкантак з Гародні Ліліі Жылінскай і Інесы Кур'янавай. Хор ветэранаў „Pogodna Jesień" і бадзёрыя жанчыны з калектыву „Exit" падрыхтавалі польскі традыцыйны і сучасны, адпаведны акалічнасці рэпертуар. Адзінымі, якія паказаліся з гвяздай і калядкамі, у тым ліку беларускімі, былі дзеткі з „Заранкі".

Пасля канцэрта калектывы „Pogodna Jesień" і „Exit" зладзілі сабе ўрачыстае застолле.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

Гітарысты Інесы Кур'янавай



Бадзёрыя жанчыны з калектыву „Exit"

Хор ветэранаў „Pogodna Jesień"


МОВА НАНОВА

СЛУШНЫЯ КУРСЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

ПРА КУРСЫ ФОТА МЕТАДЫЧНЫЯ ХІТРЫКІ КАНТАКТЫ

# www.movananova.by

Цяперашні стан беларускай мовы ў Беларусі такі, што яе ворагам зусім не трэба прымяняць нейкіх актыўных захадаў дзеля канчатковага вынішчэння беларушчыны. Дастаткова нічога не рабіць і беларуская мова застанецца толькі ў школьных падручніках і ў размовах лічаных, неабыякавых да нацыянальнага адраджэння асоб. Гэтага, зразумела, замала, каб нават разважаць аб нейкім пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў жыцці. Калі для большасці насельніцтва яна ўжо ёсць нечым незвычайным, дзіўным і не надта патрэбным, то трэба здзейсніць звышвялікія намаганні, каб змяніць цяперашнюю сітуацыю на процілеглую.

Праўда, некаторыя беларусы не згодныя з такой трактоўкай перспектыў беларускай мовы ў бліжэйшым будучым. І яны ўпарта, як і належыць беларусам, спрабуюць перамяніць сітуацыю на свой капыл, давесці навакольным, што размаўляць па-беларуску не толькі добра, але і модна, цікава і ўвогуле супер.

За апошнія гады найбольш яскрава праявілі сябе дзве грамадскія ініцыятывы па папулярызацыі беларускай мовы. Гэта праект мінскай журналісткі Кацярыны Кібальчыч „Мова ці кава" і праект філолага Алесі Літвіноўскай і журналіста Глеба Лабадзенкі „Мова нанова". Прычым другі вырас з першага. Аб выніках рэалізацыі першапачатковай задумы поўная інфармацыя адсутнічае. Магчыма, гэта з-за таго, што ініцыятарка не надта паклапацілася пра стварэнне нейкага сайта праекта, дзе б быў хаця б паверхневы аналіз такога навучання.

„Мова нанова" пайшла далей. Цяпер у інтэрнэце існуе старонка гэтай задумы, якая мае назву моўныя курсы. Каб віртуальна зайсці на іх, трэба набраць на сваім камп'ютары адрас **www.movananova.by**.

Калі цікавы карыстальнік апынецца на гэтым сайце, то перад яго вачыма адкрыецца даволі вясёленькае бела-чырвонае выяўленне з сонейкам і па-дзіцячаму напісанай назвай „Мова нанова. Слушныя курсы беларускай мовы". Ніжэй ідуць выйсці на старонкі з заняткамі, якіх агулам 23. На кожным занятку бярэцца тая ці іншая тэма. Ёсць там расповеды пра знакамітасцей, літаратуру, надвор'е і гэтак далей. Але каб з нейкім разуменнем падыходзіць да азнаямлення з гэтымі „слушнымі" курсамі беларускай мовы, трэба зазірнуць на старонку „Пра курсы", выйсце куды месціцца ўверсе цэлага выяўлення.

„Многія беларусы кажуць, што беларуская — іх родная мова. Пры гэтым не зусім добра ці зусім нядобра ведаюць яе. Гэтае словазлучэнне „родная мова" вельмі часта ўводзіць у зман нас саміх. Час прызнацца, што нам пара вучыць беларускую мову нанова! Такія прыклады — калі народ адраджаў паўзабытую мову — ёсць у гісторыі, і яны натхняюць!" — распавядаюць ініцыятары і арганізатары курсаў.

Курсы задуманыя як неакадэмічнае вывучэнне мовы. „То-бок, уся інфармацыя — лексіка і граматыка — падаецца праверанай і пісьменнай. Але робіцца гэта ў інтэрактыўных формах, цікава і нязмушана", — запэўніваюць Лабадзенка і Літвіноўская. Яны маюць надзею, што іх ініцыятыва будзе падтрымана людзьмі ў іншых гарадах і мястэчках. Менавіта з гэтай мэтай на сайце існуе старонка „Метадычныя хітрыкі". Зараз там размешчаны прыкладны план заняткаў.

Пры ўсёй арыгінальнасці і пазітыве задумы вывучэння мовы праз такія курсы, усё ж такі не верыцца, што дадуць яны рады і як ідэя хутка не сканаюць. Бо веды, якія немагчыма прымяніць, як, напрыклад, зараз беларускую мову ў Беларусі, асуджаны на знікненне.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



Абарванае жыццё мастака і змагара

# 85 гадоў з дня нараджэння Лявона Баразны

Імя Лявона Баразны вядомае, на жаль, мала каму з беларусаў, тым больш за межамі Беларусі. Аднак, выбіраючы круглую дату тыдня, сярод 100-гадовых юбілеяў паважаных і выдатных Аркадзя Куляшова і Валянціна Таўлая, захацелася зараз сціплым чынам ушанаваць менавіта Баразну — змагара за беларушчыну, жыццё якога было гвалтоўна перапынена.

Беларускі мастак, даследнік нацыянальнай культуры, грамадскі актывіст захавання гісторыка-культурнай спадчыны Лявон Баразна нарадзіўся 4 лютага 1929 г. у вёсцы Новае Сяло Талачынскага раёна (гэта ў Віцебскай вобласці). Лявон Баразна ў 1952 г. скончыў Менскую мастацкую вучэльню, пазней у 1968 г. — Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Шмат вандраваў па Беларусі. У выніку падарожжаў падрыхтаваў альбомы „Беларускае народнае адзенне", „Беларуская народная вопратка", „Арнамент паўднёвай Беларусі", „Тканіны Гродзеншчыны", а таксама стварыў вялікую серыю жывапісных і графічных краявідаў Беларусі. А ягоная кніга „Гравюры Францыска Скарыны" сталася важкім унёскам у айчынную Скарыніяну. Менавіта паводле эскізаў Баразны ствараліся касцюмы для розных ансамбляў песні і танца. Па сутнасці ён заснаваў школу нацыянальнага сцэнічнага касцюма. У 1966-1969 гг. Баразна працаваў галоўным мастаком Мастацкага фонду Беларусі.

Лявон Баразна вельмі блізка сябраваў з Уладзімірам Караткевічам, Зянонам Пазняком, іншымі беларускімі патрыётамі. Баразна не мог цярпець татальнай русіфікацыі і савецкага вандалізму. Гэта быў сапраўдны дысідэнт, які марыў пра распад СССР і незалежнасць Беларусі. Ён нават казаў пра гэта адкрыта. У 1969 г. разам з Пазняком выступіў у абарону гістарычнай забудовы вуліцы Няміга ў Менску. Іх супольны артыкул надрукавала цэнтральная савецкая газета „Правда". Дзякуючы гэтаму змаганню, кіраўніцтва БССР на чале з Машэравам на 3 гады прыпыніла знішчэнне архітэктуры на Нямізе.

У 1972 г. Баразна рыхтаваў публічную акцыю пратэсту супраць разбурэння Нямігі. 15 жніўня 1972 г. у старым горадзе ён кінуўся на вуліцы ратаваць жанчыну, на якую напалі бандыты. Кабета нечакана імгненна знікла, а Баразна быў забіты. Следчыя органы трактавалі гэтае забойства як звычайны крымінал, але пэўныя акалічнасці даюць падставы падазраваць у здзяйсненні злачынства савецкія спецслужбы.

Развітанне з Лявонам Баразной адбывалася ў невялікай зале Саюза мастакоў. Пахаваны ён на талачынскіх могілках. Афіцыйныя энцыклапедыі не згадваюць акалічнасцей смерці мастака.

Забойцы Баразны былі схоплены. Суд над імі ператварыўся ў бясконцы фарс і здзек з сімуляцыяй вар'яцтва адным са злачынцаў, з адмовай і заменай паказанняў сведак. Забойцы атрымалі мізэрныя тэрміны, неўзабаве скасаваныя амністыяй...

У 1975 г. сябры Лявона Баразны зладзілі ў Менску ягоную персанальную выставу, якая мела вялікі грамадскі рэзананс. У лютым 2010 г. у Нацыянальным мастацкім музеі ўдалося ўрачыста адкрыць выставу „Лявон Баразна. Спадчына".

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

НАШЫ карэспандэнты

# Зімовыя канікулы ў Чаромсе

Кулінарныя заняткі праходзілі пад наглядам Тамары Кердалевіч

Пачаліся зімовыя канікулы. Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе падрыхтаваў дзеткам шмат атракцыёнаў, каб змаглі яны належным чынам правесці адпачынак. Ужо з 25 студзеня пачаліся кулінарныя заняткі пад кіраўніцтвам інструктара ГАК Тамары Кердалевіч. Навучанне праводзіцца ў дзвюх узроставых групах: спачатку паўтары гадзіны займаюцца малечы, пасля старэйшыя дзеткі. Варта адзначыць, што кулінарнымі справамі моцна цікавяцца хлопцы. У час практычных заняткаў яны ні ў чым не саступаюць дзяўчатам.

Амаль кожны дзень (апрача нядзелі і панядзелка) працуюць паасобныя групы зацікаўленняў. І так для прыкладу: у аўторак 28 студзеня малодшыя дзеткі паўтары гадзіны займаліся пластычнымі гульнямі, а чарговыя дзве гадзіны аздаблялі прадметы тэхнікай дэкупаж. На наступны дзень адбыліся майстар-класы па збіванні лямцу мокрым і сухім метадамі. Зацікаўленнем карысталіся ганчарскія майстар-класы, турнір настольнага тэніса, выраб пацерак, конкурс на самы цікавы футляр для мабільнага тэлефона з лямцу і іншых матэрыялаў, выраб кветак з каляровай паперы, більярдны турнір ды тэатральны спектакль для дзяцей „Аповеды старой пасуднай шафы". Зімовыя канікулы ў Чаромсе завяршыліся 8 лютага маскарадным балем. Гэта была сапраўдная радасць для дзяцей.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Калядоўшчыкі

Калядоўшчыкі з ІІІ класа КШ у Нараўцы

У пятніцу, 24 студзеня г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы адбыўся VII Гмінны агляд гуртоў калядоўшчыкаў „Звязда і калядка". Выступілі групы калядоўшчыкаў са звяздой, салістка, трыо і група, якая падрыхтавала спецыяльны спектакль са спяваннем калядак. На агляд прыехалі таксама калядоўшчыкі з трох суседніх гмін. Усе яны славілі ў калядках нашага Збавіцеля Ісуса Хрыста.

Сярод фальклорных калектываў першае раўнапраўнае месца занялі стараляўкоўскія „Цаглінкі" і „Нараўчанкі" з Нараўкі. Вельмі добра адрэкамендаваў сябе і заняў першае месца калектыў „Прамень" з Дома сацыяльнай дапамогі ў Гарбарах (Міхалоўская гміна), які выступіў з абрадавым спектаклем са спяваннем калядак. Другое раўнапраўнае месца заняў гурт „Ручаёк" з шасці чалавек з Белавежы і гурт з Новай Волі (Міхалоўская гміна).

У групе дарослых выступіла адна салістка з „Нараўчанак" Зіна Пацэвіч, якая заняла другое месца. Было трыо з Нарвы, якое заняло другое месца.

У катэгорыі старэйшых вучняў Комплексу школ (КШ) у Нараўцы першае раўнапраўнае месца занялі калядоўшчыкі V і VI класаў ды дуэт Кацярына Мучко і Анна Бяляўская.

Журы высока ацаніла выступы на сцэне наймалодшых калядоўшчыкаў з нулявых класаў КШ у Нараўцы (занялі яны раўнапраўнае першае месца) ды з I, II ды III класаў (занялі яны першыя і другія месцы).

На заканчэнне выступаў удзельнікі-пераможцы атрымалі адмысловыя дыпломы і грашовыя ўзнагароды. Яны ўсе на сцэне разам з членамі журы праспявалі дзве калядкі.

Варта дадаць, што настаяцель Нараўчанскага праваслаўнага прыхода а. Аляксандр Сурэль даў з парафіяльных грошай 600 злотых на ўзнагароды наймалодшым калядоўшчыкам.

Мерапрыемства арганізавалі Гмінная ўправа ды Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы, а таксама Комплекс школ у Нараўцы. У журы працавалі а. Аляксандр Сурэль, Ядвіга Карпюк, Марыя Леўша і Янка Целушэцкі.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Цудоўныя калядныя звёзды

Каляды, Каляды, і пасля Каляд... Так хутка мінае святочны час. На шчасце калядны перыяд, калі можам, напрыклад, спяваць прыгожыя калядкі, трывае даўжэй чым два дні. Дык калі гляджу на ёлку ў хаце, успамінаю святкаванне і каляднікаў. Без іх візіту Каляды былі б для мяне сумнейшымі ды няпоўнымі. Заўсёды чакаю з радасцю, калі наведаюць нашу хату.

У гэтым годзе прыемным для мяне сюрпрызам была адна група каляднікаў. Калі я пабачыла цудоўныя дзве звёзды, ужо не было такім важным, ці госці прыгожа спяваюць. Папулярнае „Рожджэство Хрыстово" праспявалі мы, жыхары хаты, супольна з нашымі гасцямі. Адна звязда была шматкаляровая ды мела аж чатырнаццаць канцоў. Яна яшчэ прыгожа свяцілася — падключалася да электрычнасці. Аднак мяне захапіла белая сямікутная звязда — упрыгожаная далікатнымі выцінанкамі напамінала сняжынку. Я не стрымала і запыталася хто падрыхтаваў гэтыя цудоўныя зоркі. Зрабіла іх самастойна Іаанна Кірылюк, жыхарка Гайнаўкі, ураджэнка Белавежы, старшыня таварыства „Крыніца". Яна вырашыла выйсці з хаты ад святочнага стала і праветрыць калядныя зоркі. Мне здаецца, што варта было б такое майстэрства перадаць далей, каб прыгожая традыцыя не загінула...

**Тэкст і фота Эвы ВАШЧЫНСКАЙ**

Цыкл размоў: Людзі і медыя
Сустрэча з
**Агнешкай Рамашэўскай-Гузы**
журналісткай, дырэктарам
тэлеканала Белсат
**САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!**
Цэнтр прамоцыі рэгіёна „Чарлёнка"
Гайнаўка, вул. Т. Саланевіч, 2
07.02.2014 г. (пятніца) гадз. 17.00

# 09.02 — 15.02

**(22.03. — 20.04.)** Няхай табе залежыць перш за ўсё на сабе самім. Засяродзься на найважнейшым. З 13 (да 17.02.) будзеш мець мноства энергіі. Зоймешся кожнай справай, апярэдзіш канкурэнцыю і не паддасіся перашкодам. З 14 (да 18.02.) будзеш мець добрую руку да інтарэсаў. Увесь час зважай на знаёмых: аж да 28 лютага ахвотна цябе падстаўляць, могуць таксама не ўдацца падарожжы.

**(21.04. — 21.05.)** Любоўныя парывы будзеш трымаць пад кантролем. Шмат нагод паправіць інтэр'ер, зрабіць салідны рамонт у хаце. Будзеш моцны і жыццярадасны. Час немалых прафесійных поспехаў. Ва ўласным бізнесе ўсё пойдзе як па шнурку, асабліва Быкам з 29.04.-6.05. З 13.02. асабліва спраўна возьмешся за свае інтарэсы, развяжаш кожную загадку.

**(22.05. — 22.06.)** Самотныя рушаць на паляванне! Народжаныя пасля 15.06. перажывуць гарачую рамантычную прыгоду. Будзеш здольны да ахвяравання сям'і. Да 13.02. будзеш салідна працаваць, хаця без асаблівага ззяння. Пасля 14.02. хораша пахудзееш. Але сур'ёзна падыходзь да ўсіх праяў прастуды ці благога настрою. 14-15.02. — рызыкуй, бі ў сапернікаў — выйграеш кожную бітву!

**(23.06. — 23.07.)** Ахвота на змены, трансфармацыю (таксама візуальную). Усе інвестыцыі ў лютым прынясуць перакананне ў тым, што папраўляецца тваё фінансавае становішча. 10-12.02. — знакаміты момант на важныя фінансавыя прыёмы. Карыстайся нагодамі — гэта рэдкі момант! Але 9-13.02. магчымы крызіс у сям'і; не будзь заўзяты, старайся разумець.

**(24.07. — 23.08.)** Горача і жарсна ў пачуццях (толькі ў Ільвоў народжаных 15-20.08. магчымыя скрыгіты ў пары). 9-13.02. можаш апынуцца паміж молатам і кавадлам — цяжка будзе задаволіць усіх. Але аж да 28.02. будзеш мець гайданку настрояў; старайся высыпацца, адпачывай, упарадкуй усё навонку — і ўнутры будзе лепш. З 14.02 (да18.02.) можаш удала пашукаць новай пасады; грошай не паменшае.

**(24.08. — 23.09.)** Самотныя Дзевы паставяць на адкрытасць. А калі будуць злавацца — хай спусцяць сваю злосць. Дзевы народжаныя да 29.08. павінны спавольніць тэмп жыцця. На працы ідзе час важных рашэнняў; не спяшайся з імі. З 14 (да 18.02) не бойся парваць ладу, які шкодзіць тваім інтарэсам, хаця ад 13.02. будзе табе нялёгка вырашаць важныя справы.

**(24.09. — 23.10.)** 12-16.02. найлепшы момант на рэалізацыю спраў патрабуючых ахвяравання; будзеш мець шанцы паказацца на фінансавым полі. 13.02. можа ў тваім жыцці паказацца хтосьці, з кім цяжка будзе расстацца. Варта больш часу праводзіць з дзецьмі. Да 13.02. вельмі пільнуйся, будзь уважлівым — цікуюць аварыі, катастрофы, выпадкі з-за раззяўства.

**(24.10. — 22.11.)** Каханне можа цябе ахапіць без рэшты. У пастаянных парах таксама прачнецца жарсць. Скарпіёны з 15-21.11. урэшце пераканаюцца адносна сваёй сувязі. 10-14.02. вельмі добра зоймешся дзецьмі, стымулюючы іх развой. 13-15.02. не плануй важных сустрэч. 13-17.02. атрымаеш парады ад аўтарытэтаў. Стрэс пераможаш магніем, вітамінам B і рэляксацыйнымі тэхнікамі.

**(23.11. — 22.12.)** Вельмі добра ў фінансах (у цябе і ў твайго партнёра), спрыянне кіраўніцтва. З 13.02. шмат энергіі ўкладзеш у зараблянне, а твой высілак не пойдзе ўпустую. 14.02. ясна ўбачыш, хто твой сябра. Можаш сустрэць кагосьці, што перакуліць твой свет дагары нагамі. З 13 (да 17.02.) можаш заззяць літаратурнымі ўмеласцямі, ведамі і інтуіцыяй. Можа пагоршыцца здароўе ў асоб хворых астмай і іншымі нямогласцямі дыхальнага шляху.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш вельмі папулярны. Вакол цябе будзе тлум аматараў і прыхільнікаў! Сіла, здольнасць да хуткай рэгенерацыі. Новыя магчымасці ў фінансах, і пачуеш тугасць кашалька (яшчэ лепш у другой палове лютага)!

**(21.01. — 19.02.)** Засяродзься на сваіх справах, таксама ў здароўі. Дбай асабліва аб сваё сэрца, рухайся. Умела разгрузі свае эмоцыі, бо пашкодзіш не толькі нервы, але і страўнік. На працы шмат работы, мноства прапаноў. З 15.02. будзеш штораз больш паспяховы і самаўпэўнены, зрэалізуеш усе планы. 14.02. твае паводзіны могуць быць нелагічнымі.

**(20.02. — 21.03.)** Розныя любоўныя перыпетыі. Рыбы з 21-27.02. могуць трапіць у сіло неўтайнавага кахання. 11-12.02. будзеш раздражнены і паставіш справы рубам, настрой можа адбіцца на фінансавых рашэннях. 13.02. можа табе папсавацца стрававальны шлях, пі супакойваючае зелле. У лютым ахопліваць цябе будзе незразумелае раздражненне; рухайся, бегай, плавай. Бярыся за навуку!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. кусок мяса або рыбы, ачышчаны ад касцей, 2. жонка балгарскага імператара, 3. горад на верхнім Дунаі паміж Мюнхенам і Штутгартам, 4. акруговы горад на паўднёвым усходзе Албаніі, 5. тайны агент, які займаецца выкраданнем дзяржаўных сакрэтаў, 6. мястэчка між Бельскам і Сямятычамі, 7. тысяча тысяч, 8. без агню не бывае, 9. антонім верху, 10. невялікі ўзгорак, 11. квадратны корань з сарака дзевяці, 12. Пятрусь, беларускі паэт, герой сацыялістычнай працы (1905-1980), 13. горад на Дняпры на поўдні Магілёўскай вобласці, 14. сяброўка грушы.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | 2 | | | | | 3 | 4 |
| | | | | 5 | 6 | | | | | |
| 7 | 8 | | | 9 | | | | | | |
| | | | | | | | | | | 10 |
| | | | | 11 | | 12 | | | | |
| | | 13 | | | | | | | 14 | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — каталонская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 2 нумара**

Марынад, вуглярод, Еўпаторыя, дзік, Катманду, дзеяслоў, Кале, спеў, воспа, нарыў, Тун.

Рашэнне: **Не глядзі куды ўпаў, але дзе спатыкнуўся**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Мода на Грузію (ч. 6)



У Грузіі, як нідзе ў свеце, можна паспытаць моцы міфаў і легендаў. Спачатку мы здзіўляліся аповедам грузінаў. Пра гістарычныя асобы з XII ст. яны апавядалі як пра знаёмых з суседства, часам параўноўвалі іх да сучасных палітыкаў. Напрыклад, свайго нядаўняга прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі параўноўвалі да Давіда Будаўніка (1089-1125). Здаецца, сам Саакашвілі дбаў пра такое параўнанне. На месца сваёй прэзідэнцкай прысягі ён абраў зруйнаваны манастыр у Гелаці, ля магілы святога цара Давіда.

У Мцхеце чакала нас не менш слаўная магіла цара Вахтанга Горгасала, бясстрашнага ваяра і легендарнага заснавальніка новай сталіцы ў Тбілісі. Прысутнасць святой магілы мы адчувалі амаль фізічна, паколькі знаходзілася яна ў кафедры Свеці Цхавелі, па-суседску з нашым пансіянатам. Падобныя эмоцыі наклікала прысутнасць легендарнай Жыццядайнай калоны, у той жа кафедры.

— Куды мы трапілі? — паўтаралі мы з Д., уражаныя згусткам міфалагічных і гаючых атракцыёнаў.

У Мцхеце як нідзе адчувалася таксама прысутнасць святой Ніно, легендарнай місіянеркі і народнай лекаркі, якая ў 337 годзе ахрысціла Грузію. Яе крыж, галінкі вінаграду перавязаныя дзявочымі валасамі, стаіць у пачатку мястэчка.

* * *

Грузінскія месцы культу ў многім нагадвалі нашыя падляшскія. Усе яны абяцалі цудоўнае аздараўленне. Адчуць моц Жыццядайнай калоны дапамагла хвароба. Праўда, яна была больш уяўная як рэальная. Раней, чым сходзіць у святое месца, мы рашылі адпачыць, перадумаць свае крокі. Гэтаму меў паспрыяць начлег у камфортным пансіянаце пад пальмай у спадарыні Гуліко. Аднак пра адпачынак не было як думаць. Усю ноч на галаву і цела нахлыналі млосныя кашмары, снілася сырое акрываўленае мяса, дарожная катастрофа. Раніцай я не пазнала сябе ў люстры. Да таго балелі нервы, самлелі рукі і ногі...

Мой паранармальны досвед толькі дапамог зразумець сілу магічнага думання грузінаў. Да кафедры я завалаклася ледзь жывая, як ахвяра вайны, каб там, раптам, акрыяць і паздаравець ля Жыццядайнай калоны!

Легендарнае месца падалося нейкім знаёмым. Я нават дасведчыла своеасаблівае дэжавю. Усё дзякуючы фрэскам, размешчаным на правым баку ад алтара. Падарожнікі з Амерыкі і Еўропы прыязджаюць у Мцхету менавіта для фрэсак з міфалагічнымі выявамі. Фон для малюнкаў складае мора, у якім ідзе барацьба дзівосных стварэнняў. Сваім выглядам часткова напамінаюць яны васьміногаў, марскіх цмокаў, медуз. У іх галовы прыгожых жанчын або ваяроў. Малюнак, хоць сам па сабе драпежны, нясе ў сабе рэфлексію адносна пачаткаў жыцця на Зямлі.

Іншы мастацкі шэдэўр прадстаўляюць сабой фрэскі ў выглядзе гараскопа...

Царкву пабудавалі ў чацвёртым стагоддзі і першапачаткова яна была драўлянай. Сто гадоў пазней, вялікі Вахтанг Горгасал перабудаваў яе на каменную. Пасля, паміж 1010-1029 гадамі, перабудавалі яе пад кірункам архітэктара Арсакідзэ. У кафедры захаваўся рэльеф, які прадстаўляе правае плячо архітэктара. Магчыма, тады былі распісаны і славутыя фрэскі — сёння самы каштоўны мастацкі шэдэўр Каўказа. Іх адкрылі адносна нядаўна, напрыканцы XX ст. Інтэр'ер царквы радыкальна памяняўся ў 1830 годзе. Міфалагічныя фрэскі былі замаляваны пад візіт цара Мікалая I, які ў канцы адмяніў свой прыезд. Гэтую „перабудову" самі грузіны лічаць горшай за ўсякія землятрусы і мангольскае нашэсце.





* * *

Кафедра Свеці Цхавелі, іначай Жыццядайная калона, свой пачатак выводзіць ад легенды, звязанай са смерцю Ісуса Хрыста. Якраз у той дзень у Іерусаліме пабываў жыхар Мцхеты, нейкі Ілья. Ён адкупіў ад рымскага жаўнера кашулю Ісуса, ды прывёз яе ў свой горад. Святыню неразважліва паказаў сястры Сідоніі. Каб праверыць яе моц, жанчына надзела святую апранаху і... ад эмоцый памерла. На месцы аказалася, што кашуля прырасла да касцей нябожчыцы. Яе пахавалі ў іерусалімскай рызе. Пасля нейкага часу над магілкай Сідоніі вырас магутны кедр... У чацвёртым стагоддзі, калі ў сталіцы Іверыі з хрысціянскай місіяй з'явілася святая Ніно, яна загадала ссячы кедр ды пабудаваць на гэтым месцы царкву. Ніхто аднак не даў рады ссячы міфічнае дрэва. Толькі пасля доўгай малітвы святой Ніно кедр узняўся ў паветра. Дойліды збудавалі храм. З дрэва атрымалася аж сем калон, ды адна з іх праявіла лячэбныя якасці.

Так пачалася цудадзейная слава месца, якая трывае па наш дзень. На ўсякі выпадак я праверыла аўру ўсіх калон, аздобленых старажытнымі фрэскамі на тэму жыцця і смерці Хрыста.

Іх энергетыка дарыла добры спакой.

Пасля ўжо за высокім каменным мурам, што акаляў царкву, здзейснілася смешная сцэна. Ад пачутага мы аж прысталі. У паветры разносіліся трывожныя і заадно інтрыгуючыя гукі кіфары. Пад мелодыю струннага інструмента нехта выводзіў шурпатыя, акрашаныя мужчынскай брутальнасцю меларэцытацыі. Мы падышлі да музыканта. Ён выседжваў на зэдліку, высланым падушкамі, галаву атуляла старэнькая шапка-вушанка. Не толькі па голасе мы зразумелі, што маем дачыненне з сапраўдным мастаком. Ззаду, пад муром, тырчэла адрубленая пляшка з-пад піва.

Мы пахвалілі музыканта за яго стыль і іверскі дух мелодыі. Гэта спадабалася дзеду. Ён перастаў іграць, ды нават хацеў пайсці з намі прагуляцца па горадзе. Ледзь адгаварылі... Музыкант жартаваў як маладзён ды падказаў шукаць сябе ў... інтэрнэце.

— А колькі вам гадоў будзе, — спыталі мы, уражаныя яго бадзёрасцю і маладым духам.

— Толькі 85! — адказаў хвацка.

* * *

Шпацыруючы па вузенькіх, адрамантаваных вулачках Мцхеты, мы зноў сустрэлі Тамару, з якой пазнаёміліся папярэднім вечарам. У гэты раз яна запрасіла нас у сваю краму з мастацкай біжутэрыяй, выкананай уручную яе мужам. Частку аздабленняў яна падарыла ў якасці сувеніраў, як старым „знаёмым"....

Бабскае захапленне залатымі цацкамі зрабіла сваё. Мы не прыкмецілі, калі нашы тэмы павярнулі ў XII, а пасля ў IV стагоддзе. Узгадалі, вядома царыцу Тамару з залатога века. Пры яе панаванні наступіў самы вялікі росквіт рамеснага мастацтва, асабліва вытворчасці залатой біжутэрыі.

У краме славянскай грузінкі мы пачулі народны аповед пра святую Ніно. Легенда ўспамінае яе як рабыню недзе ад Кападокіі, якая была куплена вяльможам з Мцхеты. Яе ведалі як набожную і добрую нявесту ды таленавітую знахарку. Якраз дзякуючы апошнім якасцям яна і ахрысціла Грузію. Усё адбылося дзякуючы цудоўнаму аздараўленню. Святая Ніно спачатку вылечыла жонку мясцовага цара, а пасля папрасіла, каб уладар здзейсніў яе жаданне. Карацей, яна ўмаліла цара, каб той паставіў царкву на магілцы Сідоніі. Пасля ў горад прыехалі місіянеры з Візантыі, якія асвяцілі царкву, ахрысцілі сям'ю ўладара, а пасля грузінскі народ...

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960